ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№17 (2596)
ПЯТНІЦА
28
красавіка 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

# СА СВЯТАМ!

ДЗЕЯЧЫ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА, РАБОТНІКІ КУЛЬТУРЫ! ВЫСОКА НЯСІЦЕ СЦЯГ ПАРТЫЙНАСЦІ І НАРОДНАСЦІ САВЕЦКАГА МАСТАЦТВА, АДДАВАЙЦЕ ЎСЕ СІЛЫ І ЗДОЛЬНАСЦІ ВЫХАВАННЮ БУДАЎНІКОЎ КАМУНІЗМУ!

З ЗАКЛІКАЎ ЦК КПСС ДА 1-га МАЯ 1972 г.




Мал. І. БЯЛЕЦКАГА.

## *ВІНШУЕМ Івана Паўлавіча МЕЛЕЖА з прысуджэннем Ленінскай прэміі!*



# ГРАМАДЗЯНСКІ І ТВОРЧЫ ПОДЗВІГ

Сапраўднае дасягненне ў літаратуры — заўсёды подзвіг, подзвіг вялікага напружання духоўных, фізічных сіл, здароўя, не гаворачы аб таленце, аб усіх здольнасцях чалавека.

Іван Мележ прыйшоў у літаратуру з глыбіннага віру жыцця, жыцця на самым крутым, трагічным яго выпрабаванні, калі на карту быў пастаўлены не толькі лёс кожнага з нас, але і лёс нашай Радзімы, нашых заваёў.

Дваццацігадовы юнак з першых дзён вайны трапляе ў пекла самых гарачых баёў на Поўдні краіны. На другі год, цяжка паранены, адпраўлены ў тыл, ён апынуўся перад нялёгкім пытаннем: як жыць, з чаго пачынаць? Яшчэ да вайны ён апублікаваў некалькі вершаў, яго вабіла паэзія. Цяпер, па-праўдзе сказаць, было не да паэзіі. Тыя пакуты, тыя выпрабаванні, праз якія прайшоў чалавек у свае дваццаць год, вымушалі гаварыць не толькі радкамі вершаў. Мележ бярэцца за прозу. Лёгка сказаць — бярэцца. У той час, пераязджаючы са шпіталя ў шпіталь, ён не мог фізічна ўзяцца за пяро. Правая рука была пад жахлівай небяспекай. Урачы патрабавалі неадкладнай ампутацыі. І вось — мала каму вядомая падрабязнасць з біяграфіі пісьменніка: першыя свае апавяданні ён піша левай рукой, ужо не спадзеючыся на правую. Пісанне гэтае было пакутным удвая — і таму, што і словы былі непаслухмяныя, непаслухмянай была і рука. Мабыць, ніколі ў жыцці Мележ не забудзе растоўскага хірурга Антонава, які пайшоў на вялікую рызыку, узяўшыся зрабіць аперацыю, і выратаваў яму правую руку.

Позняй восенню 1943 года Іван Паўлавіч прыехаў у Маскву. З гэтых дзён я і ведаю яго. Тады, вядома, яго не велічалі Іванам Паўлавічам. Высокі, цыбаты юнак у зацёртым, паношаным шынялі, які ледзь даставаў яму да калень, ён адразу ж увайшоў у літаратурнае асяроддзе. Памятаю, як радаваўся Кузьма Чорны, прачытаўшы яго першыя апавяданні, асабліва «У завіруху». Пад уражаннем яго апавяданняў ва ўсіх нас быў святочны настрой. Нараджэнне новага сапраўднага пісьменніка — не частая падзея, а ў гады вайны ў беларускай літаратуры гэта былі першыя такія імяніны. Мележ стаў цудоўным лірычным апавядальнікам-навелістам, які глыбока адчувае самыя найтанчэйшыя рухі чалавечай душы. Але ў таленце яго былі і вялікія эпічныя запасы. Гэта пацвердзіў першы раман «Мінскі напрамак». Пяць год працаваў над ім аўтар, якому хоць і не было яшчэ трыццаці гадоў, але які меў багаты і жыццёвы вопыт, і вопыт ваеннага выпрабавання. Цэнтральным вобразам кнігі стаў выдатны палкаводзец Чарняхоўскі. Не адразу ўсё ўдавалася пісьменніку. Нават пасля таго, калі раман выйшаў з друку, вобраз, ужо стаўшы няўрымслівым жыццём аўтара, у думках, у новых пошуках пісьменніка набываў усё больш дакладныя рысы, пакуль не зрабіўся сапраўдным і вартым літаратурным помнікам герою.

Нам асабліва прыемна, што мастацкі вобраз камандарма Чарняхоўскага ўпершыню ў савецкай літаратуры створаны беларускім пісьменнікам.

Я ўдзячны Івану Паўлавічу за тое, што ён даверыў мне быць рэдактарам яго першага рамана. Да гісторыі стварэння наступных раманаў Мележа я ўжо меў дачыненне чыста суседскае. Якраз, калі ён пісаў «Людзі на балоце» і выношваў у думках «Подых навальніцы», мы жылі ў адным доме і нас разлучала... столь майго пакоя. Па-чалавечы магу засведчыць, што абодва раманы каштавалі іх аўтару не меншых намаганняў духоўных і фізічных сіл, чым пісанне першых твораў. Яшчэ малады, саракагадовы чалавек, па стану здароўя, падарванага вайной, павінен быў кідаць усякую работу, але Мележ яе не кінуў, пакуль не завяршыў поўнасцю. Мой дарагі, мой нястомны, мой бяссонны сусед і ўночы не расставаўся са сваімі Куранямі, са сваім Палессем, пакутуючы, думаючы, жывучы лёсам сваіх герояў.

Нялёгка падымаць цалінныя пласты жыцця, гісторыі. Пераадольваць даводзіцца не толькі супраціўленне матэрыялу, але і асабліва ваяўнічае супраціўленне звыклых ацэнак, кансерватыўнасць утылітарнага разумення надзённасці тэмы. Іван Мележ быў непахісны і паслядоўны ў сваім перакананні: сучаснасць твора — у сучаснай, у перадавой пазіцыі пісьменніка, у новым, перспектыўным паглядзе на з'явы жыцця, на падзеі гісторыі, на людскія паводзіны і ўчынкі. Правільнасць гэтай канцэпцыі пісьменнік сцвердзіў сваёй творчасцю.

Так Іван Мележ, які быў артылерыстам на вайне, перайшоў на цяжкую артылерыю ў літаратуры, выбраўшы для сваіх цэляў самыя буйныя, самыя маштабныя вобразы, людскія характары і гістарычныя падзеі свайго народа.

Выдатныя раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы», удастоеныя самае высокае чэсці, — радасная вяршыня нашай літаратуры. Жыць, працаваць у такой літаратуры — не толькі вялікі гонар, але і найвялікшая адказнасць. Ёсць на каго раўняцца, ёсць чым вымяраць сапраўдную вартасць нашага майстэрства, нашага разумення — што такое творчы подзвіг мастака, які ўвесь свой талент і сілы аддае сваёй Радзіме, свайму народу.

**Васіль ВІТКА.**

# ВЫСОКІ ЎЗЛЁТ

Для беларускай літаратуры, для шматлікіх яе чытачоў сёння спадзяванае і добра здзейсненае свята. Раманы Івана Мележа «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» адзначаны высокай узнагародай — Ленінскай прэміяй.

Для беларускай савецкай прозы гэта свята тым большае. Асаблівасць любой узнагароды тая, што яна, узнагарода, як бы нанава, на новым, вышэйшым і відочна акрэсленым узроўні, замацоўвае ў свядомасці людзей іх жа асабісты жыццёвы, духоўны і грамадскі вопыт, і тое, што зроблена адным чалавекам, набывае сімвалічны, абагульнены сэнс. Зразумела пры гэтым, што нічога не ўзнікае само па сабе, на прыпечку ды ў зацішку, што раманы І. Мележа з'явіліся не на голым літаратурным лабяку, а на добра ўробленай ніве нашага слоўнага мастацтва. Тая ніва ўзгадавала не адзін колас, але гэты, узрошчаны сёння і любоўна адхінуты ад іншых, гадаваўся на палескай глебе, у некалі клятым людзьмі і богам краі лясоў і балот. І гэта знамянальна.

Зрэшты... Прыгадваецца час з'яўлення першага рамана «Палескай хронікі». Той поспех яго, што ажыццявіўся з добрай згоды нашага чытача, поспех заслужаны, а для самога аўтара напачатку, магчыма, трохі і нечаканы. Прыгадваецца першае ў друку сказанае з зацікаўленасцю строгага і вядомага майстра слова пра гэты раман — слова Янкі Брыля. І прыгадваецца колішняя гутарка з самім аўтарам. Гаворка ішла пра раман і пра Палессе, пра «хаты на востраве», пра родныя пісьменніку Глінішчы — Курані, пра тыя «кеб» і «буў», якія (здаецца, толькі яны адны) бянтэжылі тады крытыкаў. Мележ гаварыў, прыблізна, так. Вось, маўляў, Палессе... Як яно ўяўляецца брату нашаму беларусу, ужо не кажучы пра староннягa? «Мох, балота ды пясок...». Камары, каўтун, багна... І чалавечак на ўсім гэтым, з нейкім комплексам непаўнацэннасці ці што... Гаварылася ж нібыта: «Палешукі мы, а не чалавекі». Не, не так гэта. Гаварылася і другое: «За Гомлем людзі е?» — «Е, але дробненькія». І так вось гаварылася. Не, не было «комплексу непаўнацэннасці».

І было па-чалавечы хораша і цікава бачыць яго, звычайна спакойнага і нават марудлівага ў словах, гарачлівым і раззлавана-маладым. Падабаўся такі «мясцовы патрыятызм».

Згадка тут вось да чаго. Вопыт работы Мележа над «Палескай хронікай» яскрава даказаў (каторы раз у пісьменніцкай справе наогул!), што сапраўдная літаратура нараджаецца вось з гэтага «мясцовага патрыятызму» — з пісьменніцкай шчырасці, з вернасці сваім чалавечым і мастацкім перакананням, з вернасці жыццю і яго не заўсёды адграбляванай праўдзе. Гэта адно. Ёсць і другое. Яшчэ раз увачавідкі сцвердзіў сябе так званы «маленькі», звычайны чалавек. Літаратура пра «малога чалавека» не можа быць малой, калі гэта сапраўдная літаратура. Няма «малых» літаратур, як няма «малых» народаў. Гэта, так сказаць, некаторыя простыя ісціны, якія яшчэ раз пацвердзіліся на вопыце Мележа-раманіста.

У наш час многа гавораць і пішуць пра лёс эпічнага жанру, пра яго найбольш сінтэтычную форму — раман. Адмірае ён ці ўзбагачаецца? Памірае ці памёр? Спрэчкі гэтыя, мусіць, сапраўды бясплённыя, хоць, у сваю чаргу, было б рызыкоўным сцвярджаць, што поспех аднаго—двух раманаў, аднаго ці двух аўтараў кардынальна вырашаюць праблему. Усё залежыць, зноў жа, ад часу, ад абставін і месца. Чым сцверджаны, напрыклад, цэлы літаратурны кірунак, цэлы мастацкі метад — «Шынялём» Гогаля ці ягонымі «Мёртвымі душамі»? Дастаеўскі казаў, здаецца, што руская проза мінулага стагоддзя выйшла з «Шыняля» Гогаля.

І было б рызыкоўна, разам з тым, аддаваць перавагу таму мастацкаму кірунку, той стылявой плыні, якую ўвасабляе гэты альбо іншы таленавіты твор. Мы гаворым пра традыцыі Коласа і Чорнага, Максіма Багдановіча і Максіма Гарэцкага. Каму з іх аддаць перавагу? А можа так не трэба? Няхай у кожнага будуць свае вучні і свае паслядоўнікі. Бо гэта толькі на карысць літаратуры.

Нам прыемна ўсведамляць, што побач з выдатнымі раманамі Івана Мележа існуе багатая, па-мастацку шматгранная проза Я. Брыля і І. Шамякіна, В. Быкава і І. Навуменкі і г. д. Пералічваць не трэба і нявapта.

А сёння мы яшчэ раз віншуем Івана Паўлавіча Мележа з высокім прызнаннем яго мастацкіх здзяйсненняў.

**Міхась СТРАЛЬЦОЎ.**

# «ШЧАСЛІВАЯ ПРАЦА ДУШЫ...»

Бываюць супадзенні, якім здзіўляешся, загадкава-сімвалічны сэнс якіх хвалюе, пра якія думаеш: «Выпадковыя яны ці невыпадковыя?» Хочаш чамусьці думаць, што невыпадковыя, а калі і выпадковыя, то толькі ў тым сэнсе, што з'яўляюцца праяўленнем нейкай разумнай неабходнасці.

Так было і на гэты раз. Супалі нечакана-негадана дзве падзеі. Першая — кніга «Нараджэнне грамадзяніна» В. Сухамлінскага. Я з радасцю набыў яе, адразу, не адкладваючы на паліцу, пачаў чытаць. Дакладней кажучы: з нецярпеннем гартаць, каб спачатку пазнаёміцца папярэдне — з галоўным зместам, з раздзеламі, з мовай і логікай аўтара, з фотаілюстрацыямі, з асобнымі мясцінамі, выдзеленымі разрадкай. «Чым больш чалавек даведваецца аб акаляючым свеце, — чытаў я, — тым больш ён павінен ведаць пра чалавека. Грэбаванне гэтым вельмі важным правілам парушае гармонію паміж ведамі і мараллю. Гэту з'яву я б назваў маральным невуцтвам...» «Культура эстэтычных пачуццяў, — гартаў я далей, — патрабуе высокай агульнай культуры школьнага жыцця, асабліва маральнай культуры — адносін да чалавека як да вышэйшай каштоўнасці...» Вось які, зазначаў я для сябе ў думках, дакладны, ёмкі тэрмін «маральная культура» і як ён дакладна і глыбока вызначаецца: адносіны да чалавека як да вышэйшай каштоўнасці. «Складаную і тонкую задачу выхавання я бачыў у тым, каб каштоўнасці мастацтва сталі духоўнай патрэбай падросткаў, каб вольны час яны імкнуліся напоўніць самай шчаслівай, самай жыццярадаснай працай душы — пазнаннем харaства...» Старонка за старонкай, раздзел за раздзелам... Выдатны педагог, вялікай, светлай душы чалавек дзяліўся сваім багатым вопытам і сваім мудрым роздумам, расказваў, як, на яго думку, трэба выхоўваць юнага чалавека. Ён гаварыў, у прыватнасці, аб маральным і эстэтычным выхаванні, аб той ролі, якую павінны адыгрываць тут роднае слова, літаратура, жывапіс, музыка...

Кнігу «Нараджэнне грамадзяніна» я браў з сабой у дарогу, бо літаральна назаўтра, пасля таго, як яе набыў, павінен быў ехаць у Рыгу на семінар, прысвечаны... маральна-эстэтычнаму выхаванню рабочай моладзі. Бываюць жа, кажу, такія супадзенні.

Семінар гэты быў не зусім звычайны, аб чым сведчыць хаця б склад яго ўдзельнікаў. Так, з Беларусі, напрыклад, на яго ехалі прадстаўнікі Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па прафесійна-тэхнічнай адукацыі А. Казлоўскі, Н. Карпава, Н. Лушчакоў, музыказнаўца А. Ракава, мастак Л. Дударэнка, загадчык аддзела ЦК ЛКСМБ Ул. Ліпскі, а ад Саюза пісьменнікаў БССР празаік, загадчык аддзела газеты «Літаратура і мастацтва» Я. Каршукоў і я.

Так, семінар быў не зусім звычайны. На ім былі даклады і выступленні, але галоўным было тое, што яго суправаджала, што паказвалася, дэманстравалася, выконвалася. Даклад старшыні Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў Латвійскай ССР па прафесійна-тэхнічнай адукацыі, цікавага чалавека, улюбёнага ў сваю справу кіраўніка Я. Бродэліса суправаджаўся, напрыклад, выступленнямі самадзейных і прафесійных артыстаў, музыкай і песнямі, паказам жывапісных прац навучэнцаў прафесійна-тэхнічных вучылішч, дэманстрацыяй вырабаў, зробленых іх рукамі і г. д. Былі даклады, быў абмен думкамі, ішла гутарка аб выхаванні новага чалавека — і зноў гучала музыка, гучала песня, разам з самадзейным хорам саліраваў вядомы спявак, выступаў кампазітар і потым выконваў на інструменце песню, якую ён напісаў спецыяльна для навучэнцаў такога-та вучылішча, дзе ён часты і любімы госць.

Семінар быў павучальны. На гэтым дружна пагаджаліся ўсе яго ўдзельнікі, незалежна ад іх прафесіі. Усе пагаджаліся на тым, што менавіта так, з такім энтузіязмам, з такім размахам і такім веданнем справы і трэба выхоўваць заўтрашняга маладога рабочага. Я ў сваім выступленні гаварыў, апрача ўсяго іншага, аб п'есе М. Матукоўскага, дзе добра паказана, якім бывае ён, малады рабочы, калі яго выхоўваюць інакш.

А потым, пасля семінара, па дарозе дамоў прыгадаў нядаўнюю размову з дырэктарам аднаго Брэсцкага прафесійна-тэхнічнага вучылішча. Я і Уладзімір Паўлаў павінны былі выступіць у вучылішчы з чытаннем сваіх вершаў, да выступлення яшчэ быў час, і мы гутарылі з дырэктарам у яго кабінеце. Ён расказваў пра вучылішча, пра сваю працу, пра тое, як цяжка даводзіцца ім часам у справе выхавання, і сказаў на развітанне: «Памагайце нам. Веды мы дадзім ім самі, а вось што датычыць выхавання, то нам адным тут цяжка... Памагайце, гэта ж наша агульная справа». На семінары ў Рызе я мог пераканацца ўвачавідкі, наколькі меў рацыю дырэктар. І мог пераканацца, што сапраўды адна з галоўных умоў выхавання і заключаецца ў тым, «каб каштоўнасці мастацтва сталі духоўнай патрэбай падросткаў», і светла думаў аб «самай шчаслівай, самай жыццярадаснай працы душы — пазнанні харaства».

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

Алесь ЗВОНАК



# ВЯСНЫ МЕЛОДЫІ ЖЫВЫЯ

**1. ЗДЗІЎЛЕННЕ**

Заўжды хвалюе нас прыход вясны.
І хоць не лёг на гай зялёны колер,
А ўжо, як тонкі гук жывой струны,
Спеў жаўрука звініць над шэрым полем.
А ўжо вятры з далёкай стараны
Нясуць цяплынь у залатым прыполе;
А ўжо абрысы ясных дзён відны
І замірае сэрца мімаволі.
Глядзі, глядзі айчыне ў чысты твар,
Нямей, нямей ад шчаснага здзіўлення:
Вясна па небе коціць сонца шар
Насустрач дням вялікім аднаўлення.
Прымі яго, душа, як лепшы дар,
Напоўнены ўрачыстасцю вясенняй!

**2. ВЕЧАРЫ**

Ты чуеш? Мякка крочаць вечары
Над павуціннем высветленых вуліц,
Над пенай хмар, застылаю ўгары,
Над стужкай мілай Свіслачы-крывулі.

Гары, душа, ўспамінамі гары!
Ужо й дамы ставокія паснулі,
І збеглі цені ў цёмныя двары,—
Цябе ж спакой ніколі не атуліць!

Усё шукаць табе знаходку ўдач,
Усё блукаць табе сястрой паэта,
Каб сэрца голас, скрыпкі тонкі плач
Пералажыць на строгі рытм санета
І знаць, што песня лепшая не спета,
І паўтараць штодня: пераінач!

**3. САКАВІК**

Дзіця вясны — празрысты сакавік —
Па капілярах дрэва гоніць сокі.
Ці чуеш ты гартанна-шчасны крык
Над чысцінёю сіняе пратокі?

Забудзь усё — свет радасцю вялікі,
Скіруй насустрач сонцу лёгка крокі.
Парві няўдачы першай чарнавік, —

Аляксандр ДРАКАХРУСТ

# ТАМ, ДАЛЁКА, ЗА ПІРЭНЕЯМІ...

*СТАРОНКІ АДНАГО ДЗЕННІКА*

Хто не памятае святлоўскай «Грэнады»? Хто не паўтараў цудоўных радкоў пра хлопца, які «пошел воевать, чтоб землю в Гренаде крестьянам отдать»?..

У дзяцінстве, калі ўражанні асабліва яркія і моцныя, мне пашчасціла ўбачыць чалавека, лёс якога дзівосна супадаў з лёсам героя гэтай балады.

Не, знешне ён зусім не быў падобны на летуценнага святлоўскага хлопца. І ваяваў ён не ва ўкраінскім стэпе, а за тысячы вёрст ад яго. Але хіба ў гэтым справа?

За далёкімі Пірэнеямі, у краіне, якая снілася па начах хлапчукам майго пакалення, ён змагаўся за рыжую зямлю Арагона і за камені Кастыліі, і за Мадрыд, і за тую самую, услаўленую паэтам, «Грэнадскую воласць»...

Яго звалі Поль Мацісавіч Арман...

Сапраўднае прозвішча яго было Тылтынь. Але аб гэтым, як і аб многіх іншых падрабязнасцях яго незвычайнай біяграфіі, я даведаўся толькі праз трыццаць гадоў.

Латышскі камуніст-падпольшчык. Студэнт Рыжскага універсітэта і Сарбоны. Актывіст французскай кампартыі, які атрымаў партыйную клічку «Арман». Чалавек, які свабодна гаварыў на некалькіх еўрапейскіх мовах, тонка адчуваў паэзію (любіў Верлена), ведаў і разумеў тэатр (перапісваўся з некаторымі буйнымі акцёрамі). Чалавек, які з далёкага тысяча дзевяцьсот дваццаць шостага года да апошняга бою пад Волхавам у жніўні сорак трэцяга, быў баявым танкістам — па прызванні, па любві, па высокім пачуцці абавязку.

А тады... Тады мы, хлапчукі, проста бегалі чарадой за невысокім хударлявым маёрам са строгімі, я б нават сказаў, пранізлівымі вачыма, якія заўсёды цяплелі, калі ён бачыў дзіцячыя твары. Мы глядзелі ў гэтыя шэрыя вочы, мы чапляліся за гімнасцёрку з ордэнам Леніна (тады яшчэ ў герояў не было Залатых Зорак). І нам вельмі хацелася пачуць расказ хоць бы пра адзін подзвіг...

А Поль Мацісавіч, дзядзька Поль, як мы яго называлі, расказваў зусім пра іншае — пра тое, у якія гульні гуляюць іспанскія дзеці, якія яны адчайныя і храбрыя, пра карыду, пра мадрыдскі бар, у якім збіраліся пісьменнікі і журналісты («Вы яшчэ калі-небудзь прачытаеце іх кнігі!»...)

Прайшлі гады, дзесяцігоддзі... Але рысы гэтага чалавека з адкрытай, амаль дзіцячай усмешкай, якая непазнавальна змяняла яго сухі, аскетычны твар, не сцёрліся ў маёй памяці. Можа таму, што ў цяжкі час умацаваў ён ва мне, дванаццацігадовым хлапчуку, веру ў чалавека, якая была пахіснулася, а можа... Ды што гадаць?.. Проста: такіх людзей не забываюць.

Але адна справа — уражанні падлетка, другая — памяць сталага чалавека, сябра, вучня, баявога таварыша.

Некалькі гадоў назад, працуючы над кнігай па гісторыі Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі, пазнаёміўся я з генералам Анатолем Юльевічам Новакам. Разам з Арманам служыў ён у 4-й танкавай брыгадзе ў Бабруйску, разам з Арманам плыў на цеплаходзе «Камсамол» у ахопленую агнём Іспанію, разам з ім прымаў удзел



Поль Арман.

у баях, ад якіх залежаў лёс рэспублікі...

Поль Мацісавіч, пра якога нават смелыя іспанцы казалі, што «бог не ўклаў яму ў душу страху», у самыя гарачыя дні вёў дзённік. Гэтыя беглыя запісы, зробленыя на прывалах і ў мінуты кароткіх перадышак, на шчасце, захаваліся.

Вось адзін з іх:

**«30 кастрычніка 1936 года.** Учора быў цяжкі бой. Рота выведзена ў раён гары Сіера-дэ-лос-Анхелес... Абстаноўка на фронце не абяцае адпачынку»...

Учора быў цяжкі бой...

Усяго чатыры словы! Але ж гэта сказана пра дзень, калі лёс сталіцы Іспанскай рэспублікі вісеў літаральна на валаску. Войскі генерала Франка акружылі горад з трох бакоў. Не толькі ворагам, але і сябрам здавалася, што мяцежнікі, узброеныя нямецкай і італьянскай тэхнікай, вось-вось уварвуцца на мадрыдскія вуліцы...

У крытычны момант на дапамогу рэспубліцы прыйшлі байцы інтэрнацыянальных брыгад. Іх галоўнай ударнай сілай аказалася танкавая рота савецкіх добраахвотнікаў.

Камандаваў ёю Поль Мацісавіч Арман.

...29 кастрычніка на досвітку 15 танкаў Т-26 рынуліся на паўднёвы захад ад Мадрыда, па дарозе, якая ішла на Сесенью—Барокс—Эсківіяс... Менавіта на гэтым напрамку мяцежнікі, найміты з іншаземнага легіёна і мараканскія кавалерысты падышлі бліжэй за ўсё да сталіцы. Першым на камандзірскім танку з адкрытым люкам ехаў Поль Арман. Услед ехаў на сваёй баявой машыне лейтэнант Мікалай Сяліцкі, наш зямляк-мінчанін.

Хутка ў тумане паказаліся першыя дамы Сесеньі. Непадалёк ад дарогі відаць была зброя. Злева, ля капліцы, разгрупаваліся нейкія салдаты... Але вось ад іх аддзяліўся афіцэр. Падбегшы да галоўнага танка, ён запытаўся:

— Італьяно?

— Сі! — хутка адказаў Арман і тут жа зачыніў люк вежы. Надрыўна загудзеўшы маторам, камандзірская машына рынула наперад. Сесенья была ў руках фашыстаў. Іх трэба было апярэдзіць. Чаго б гэта ні каштавала!

З цяжкасцю манеўруючы на вузкіх сярэдневяковых вуліцах, танк Армана вёў агонь па пяхоце, якая падрыхтавалася да атакі. Мікалай Сяліцкі сваім Т-26 падмяў гармату разам з абслугай і таксама ўварваўся ў сяло. Там, у нейкім завулку, ён наскочыў на эскадрон мараканцаў.

— Наперад!

Ляскат гусеніц змяшаўся са стрэламі і выбухамі гранат. Ашалелыя коні скідвалі коннікаў, уставалі на дыбы, мітусіліся.

Нечакана пры развароце танк рэзка тузанула. Ён спыніўся. Правая гусеніца разарвалася і спаўзла з каткоў...

Мікалай Сяліцкі загадаў вадзіцелю і вежаваму стралку паправіць пашкоджанне, а сам застаўся ля кулямёта прыкрываць іх.

Ля машыны затармазіў танк лейтэнанта Асадчага.

— Мікалай, давай з хлопцамі да мяне!

— Не магу! Паправім і дагонім. Далажы ротнаму...

Разбіваючы пяхоту мяцежнікаў, разганяючы мараканскую конніцу, танкавая калона рухалася наперад. За Бароксам, які яна праскочыла на поўным хаду, паказаліся восем італьянскіх танкаў «ансальда». Камандзірская машына зноў першая ўступіла ў бой. Два варожыя танкі загарэліся, а адзін быў скінуты ў цясніну танкавым таранам лейтэнанта Сяргея Асадчага. Астатнія машыны паспяшылі развярнуцца і схавацца за ўзгоркам.

Па дарозе назад нашы танкі былі сустрэты кулямётным агнём і гарматнымі стрэламі з нанова захопленай мяцежнікамі Сесеньі.

Але Поль Мацісавіч на вялікай хуткасці павёў калону праз сяло: іншага шляху не было. З балконаў і дахаў франкісты кідалі на танкі гранаты і бутэлькі з гаручай сумессю.

Агонь ахапіў камандзірскую машыну. Задыхаючыся ад дыму і гарачыні, Арман працягваў па радыё кіраваць боем, у той час як механік-вадзіцель Мерсан і камандзір танка Лысенка змагаліся з полымем. Пажар удалося патушыць, але ўсе, хто быў у машыне, атрымалі сур'ёзныя апёкі.

Сярод палонных, захопленых у Сесеньі, аказалася некалькі мараканцаў. Яны расказалі аб лёсе лейтэнанта Сяліцкага і яго баявых сяброў.

...Калі быў забіты адзін з членаў экіпажа (як потым высветлілася, гэта быў іспанскі баец Хуан), Сяліцкі, відаць, зразумеў, што ліквідаваць няспраўнасць не ўдасца. Ён загадаў механіку ўлезці ў танк. Адважныя танкісты вырашылі адбівацца ўдваіх.

Фашысты, якія спачатку баяліся наблізіцца да баявой машыны, паступова пасмялелі. Некалькі разоў кідаліся яны ў атаку, але, не вытрымаўшы агню, адкочваліся назад.

Бой працягваўся амаль дзве гадзіны.

Але вось прагрымела апошняя кулямётная чарга. І адразу наступіла цяжкая цішыня. Больш не было стужак...

Пачакаўшы, фашысты ўзабраліся на машыну. Яны стукалі прыкладамі па броні, спрабавалі прасунуць штыкі і кінжалы ў назіральныя шчыліны. У адказ гучалі рэдкія стрэлы з пісталета.

Зразумеўшы, што танкістаў жывымі не ўзяць, ворагі аблілі танк бензінам і падпалілі. І тады з агню і дыму ў іх паляцелі дзве апошнія гранаты...

К вечару 29 кастрычніка танкавая рота Армана сустрэлася з перадавымі часцямі рэспубліканскіх войск, якія займалі абарону непадалёк ад Вальдэмора. Поль Мацісавіч, абпалены, бясконца стомлены, вылез з машыны і падышоў да Даларэс Ібаруры, якая выехала насустрач савецкім танкістам. Ён коратка расказаў аб выніках рэйду (праціўнік страціў да 800 салдат і афіцэраў забітымі і параненымі, два танкі «ансальда», 12 гармат, 10 грузавых і легкавых машын). Але быў яшчэ адзін, галоўны вынік, зразумелы для ўсіх, хто быў у той момант на перадавых пазіцыях пад Мадрыдам: нашы танкісты сарвалі пачатак фашысцкага наступлення.

Бітва за сталіцу іспанскай рэспублікі толькі пачыналася. І Ар-

**НЯХАЙ МАЦНЕЕ АДЗІНСТВА І ЗГУРТАВАНАСЦЬ КАМУНІСТАЎ УСЯГО СВЕТУ НА АСНОВЕ МАРКСІЗМУ-ЛЕНІНІЗМУ І ПРАЛЕТАРСКАГА ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМУ!**

З ЗАКЛІКАЎ ЦК КПСС ДА 1-га МАЯ 1972 г.

Надзеі голуб зноў ляціць высока!
Зірні, вятры палошчуць пакрысе
Аўчынкі хмар бялява-кучаравых,
Зямля ад сну ўстае ва ўсёй красе
Кругазваротам вечна новай з'явы.
Сумуй па светлых днях, як па расе
Сумуюць ледзь разбуджаныя травы!

**4. ЧАКАННЕ**

Прыходзь, вясна, днём першае усмешкі,
Днём першай песні птаха-жаўрука,
Сцяблінкай першай на крутым узмежку,
Днём нараджэння першага радка.
Радок мой, ён пралёг прамою сцежкай
Да дум тваіх жывога церамка.
У ім—пачуццяў згаслых галавешкі,
Жаданняў абмялелая рака.
І ўсё ж ён повен светлага чакання
Між днём і ноччу алай паласы,
І развітанняў у імя спаткання,
І адцвітанняў у імя красы...
Прыходзь хутчэй вясны трыумфаванне
Цяплом праменным, халадком расы!

**5. МЕЛОДЫЯ**

Расталі, змоўклі веі снегавыя,
І зноў гучаць на сотні галасоў
Вясны маёй мелодыі жывыя,
Жыцця стовуснай песні ва ўнісон.
Гады мае, як вехі верставыя,
У спелым моры жытніх каласоў,
Над вамі злыя непагадзі вылі,
Вас ахінаў начэй палярных сон!
Шматкаляровы бачу ваш адбітак
Я на шматгранных вырысах падзей,
Дзе ўсё адзінства повяззю спавіта,
Дзе месца страху не знайсці нідзе.
Жыццю й вясне душа мая адкрыта,
Табе, мая найлепшая з надзей!

**6. ЧАС**

Даруй мне, час, за слоў прасталінейнасць,
На ўяўнай злосці шал не наракай!
Не, выгінастай рыссю духу ленасць
Мяне не цікавала спадцішка!
Я ведаю: і рух жыцця і тленнасць —
Усё ў тваіх упэўненых руках.
Ты нас вучыў не прыгінаць каленяў,
Калі прыйшлося ў поцемках блукаць.
Табе я з дзён маленства падначален,
І вось па бурным рэчышчы плыву
Да самага канечнага прычалу.
Але і там цябе я пазаву
Сказаць: хоць нас на вернасць не вянчалі,
Я сувязей з табой не разарву!

ман — «камандантэ Поль» — разам са сваімі баявымі сябрамі амаль не выходзіў з баёў. Сваім чоткім акуратным почыркам адзначаў ён у дзённіку дзень за днём:

«...**2 лістапада.** Пастаўлена задача: сумесна з пяхотай контратакаваць і знішчыць праціўніка, які займае ў загадзя падрыхтаваных акопах вышыні ў раёне Фуэнлабрада. Атакуем. Танкі вырываюцца наперад... Праціўнік уцякае. Рэспубліканская пяхота з захапленнем вітае нас воклічамі і апладысментамі. Але хутка мяцежнікі зноў займаюць гэты рубеж. Выходзіць, трэба паўтараць атаку. Што мы і робім...

**3 лістапада.** Зноў вяртаемся ў раён Парла-Пінта, дзе ўдзельнічаем ў контратацы рэспубліканцаў. У праціўніка на гэтым участку з'явілася многа артылерыі, процітанкавых гармат і да 20 танкаў «ансальда». У гэты дзень мы знішчылі 7 гармат, 5 кулямётаў, каля 300 фашыстаў. Параненыя, засталіся ў страі камандзіры танкаў Лысенка, Коласаў. Лёгка паранены і кантужаны я сам. К канцу дня ў маё распараджэнне прыбыла свежая танкавая рота з іспанскімі экіпажамі пад камандаваннем лейтэнанта Д. Пагодзіна.

**4 лістапада.** Новая рота ўдзельнічала ў контратацы рэспубліканскіх войск у напрамку Вальдэмора. І хоць яна страціла два танкі, маладыя іспанскія танкісты здалі паспяхова баявы экзамен. Цяпер у нас у страі 16 танкаў. Асабовы склад асноўнай роты за сем дзён няспынных баёў канчаткова стаміўся. Матэрыяльная частка патрабуе рамонту. Але думаць пра адпачынак не даводзіцца. Адчуваецца набліжэнне крытычных дзён барацьбы за сталіцу рэспублікі.

**6 лістапада.** Мяцежнікі авалодалі першымі кварталамі Мадрыда—Карабанчэль-Альта і пранікаюць у гарадскі парк Каса-дэль-Кампа. Наша танкавая група становіцца зноў на шляху захопнікаў... Карыстаючыся раптоўнасцю, танкі давяць артылерыйскія батарэі праціўніка, знішчаюць роту на машынах з 12-ю буйнакаліберными кулямётамі і некалькі танкаў «ансальда». Пяць нашых танкаў дзейнічаюць у раёне Вільявердэ пад камандаваннем лейтэнанта Мяноўскага. Яны падтрымліваюць часці Лістэра, якія адбіваюць наступленне фашыстаў.

З кожнай гадзінай становішча абаронцаў Мадрыда робіцца больш складаным. У штаб фронту дастаўлены аператыўны загад фашысцкага генерала Варэла, знойдзены ў забітага фашысцкага афіцэра. У ім пастаўлена задача ўзяць Мадрыд 7 лістапада... Стала вядома, што яшчэ 4 лістапада мяцежныя палкоўнікі Ягуэй, Кастэхон далі Франка наступную тэлеграму: «Мы можам ужо ўступіць у Мадрыд. Намі заняты ўсе стратэгічныя пункты, якія пануюць над сталіцай. Просім паскорыць адпраўку прадстаўнікоў улады. Затрымаем заняцце горада да вашага прыезду...»

Да гэтага месца дзённіка П. М. Армана Анатоль Юльевіч Новак зрабіў вельмі цікавую заўвагу.

Пасля таго, як камандаванне мяцежнікаў атрымала гэту фанабэрлівую рэляцыю, у напрамку іспанскай сталіцы з Вальядоліда выехала вялікая калона. У аўтобусах і на грузавіках разам з будучымі «ўладамі Мадрыда» спяшаліся на свята фалангісцкія «героі», шматлікія аркестры, паненкі з фашысцкіх арганізацый. Праз некалькі гадзін у суправаджэнні світы з нямецкіх і італьянскіх саветнікаў рушыў у дарогу «сам» Франка. Хутка абедзве калоны прыбылі ў Масталес, Лагонес, Алкарон. Да Мадрыда заставалася ўсяго некалькі кіламетраў. Пасля напышлівых прамоў машыны памчалі да Карабаньчэль-Альта. Але раптам насустрач ім на вялікай хуткасці — фашысцкі матацыкліст: «Хутчэй назад! Чырвоныя танкі атакуюць!»

— Можаце сабе ўявіць, якая пачалася паніка! — завяршыў свой расказ А. Ю. Новак.— Куды падзеліся ўвесь глянец і напышлівасць каўдыльё і яго прыслужнікаў! Шкада, што не ведалі мы тады, як блізка ад нас была фашысцкая вярхушка!.. Не ўехаў Франка ў Мадрыд ні ў трыццаць шостым, ні ў трыццаць сёмым... Толькі пасля здрады генерала Міяха мяцежнікі апынуліся на вуліцах Мадрыда...

Але гэта было потым.

А 8 лістапада 1936 года Поль Мацісавіч запісаў у сваім дзённіку:

«...Баі за Мадрыд пераносяцца на захад, разгортваюцца баі за раён Каса-дэль-Кампа і Універсітэцкі гарадок. Нашу танкавую групу перакідваюць на гэты напрамак... Інтэрнацыянальная брыгада, з якой мы павінны дзейнічаць, яшчэ не паспела падысці. Таму дзейнічаем сумесна з 3-й брыгадай Марыо Хазэ Галана, якая ў баі ўдзельнічае ўпершыню... На поўдзень ад Умера, у раёне Інжынернага гарадка, мы знішчылі адну батарэю палявой артылерыі і некалькі процітанкавых гармат ворага».

А вось запіс, зроблены яшчэ праз дзень:

«Напружаныя баі працягваюцца на тым жа ўчастку. Прамым пападаннем варожага снарада разбіты адзін танк. Забіты камандзір танка Павел Купрыянаў і механік-вадзіцель Быстроў...»

У Поля Мацісавіча не было часу для больш падрабязных запісаў. А між тым гібель гэтых двух танкістаў, і асабліва Паўла Купрыянава, глыбокім болем адгукнулася ў яго сэрцы.

Купрыянава ён ведаў яшчэ па Бабруйску. І не толькі ведаў...

Гэты хлопец прыйшоў у батальён, якім камандаваў капітан Арман, з беларускага сяла Старынцы. Вельмі хутка за знешняй нехлямяжасцю, негаварлівасцю, звычайнасцю Купрыянава Поль Мацісавіч здолеў разгледзець і сапраўдны характар, і цвёрдую волю. А праз некалькі месяцаў Павел Купрыянаў, які прайшоў у камбата нялёгкую школу, ужо ўзначальваў экіпаж камандзірскага танка.

І калі Арман вырашыў ехаць у далёкую Іспанію, такое ж рашэнне, не вагаючыся, прыняў і яго выхаванец.

9 лістапада ў час атакі машына Купрыянава засела ў неглыбокім яры. Поль Мацісавіч на сваім танку некалькі разоў спрабаваў прабіцца на выручку, але беспаспяхова: варожы агонь быў вельмі шчыльны. Тады, пакінуўшы машыну, ён з трыма танкістамі вырашыў дабрацца да баявых сяброў па-пластунску. Але і гэта не ўдалося...

Павел Купрыянаў і Сяргей Быстроў зачынілі люкі і шчыліны і доўга вялі няроўны бой з мяцежнікамі. Фашысты падцягнулі тры процітанкавыя гарматы. Дзве з іх былі разбіты трапнымі снарадамі, перш чым разлікі паспелі адкрыць агонь. А трэцяя... Але пра гэта лаканічна напісаў у сваім дзённіку П. М. Арман. Да гэтага запісу Поль Мацісавіч дадаў два радкі па-французску. Гэта былі вершы Верлена пра Чорнага рыцара:

«Он, железный свой перст в
мою рану вложив,
Жестким голосом так мне сказал: «Будешь жив!»

Ён яшчэ доўга жыў і доўга змагаўся. У яго быў цяжкі, трагічны лёс. Але ніколі, ніколі страх не валодаў яго высокай і мужнай душой!..

Праз трыццаць гадоў пасля бітвы за Мадрыд удава Мікалая Сяліцкага Фаіна Спірыдонаўна звярнулася да старшыні Камуністычнай партыі Іспаніі Далорэс Ібаруры, якая сустрэла 29 кастрычніка 1936 года савецкую танкавую калону, з просьбай падзяліцца сваімі ўспамінамі.

«...Калі б вы ведалі, колькі ўспамінаў абуджае ваша пісьмо,— пісала ў адказ Пасіянарыя.— Колькі гераізму і самаадданасці паказалі савецкія людзі і ўсе, хто з розных краін прыйшоў на дапамогу нашаму народу, які змагаўся за сваё жыццё супраць фашысцкіх ордаў... Колькі любві і ўдзячнасці да іх жыве ў нашых сэрцах!..»

Гэта сказана і пра Поля Армана, і пра Сяргея Асадчага, і пра Мікалая Сяліцкага, і пра Паўла Купрыянава, і пра многіх, многіх іншых танкістаў і лётчыкаў, артылерыстаў і пехацінцаў, якія змагаліся за Пірэнеямі.



Мікалай Сяліцкі.

Іх кроў пралілася на Іспанскай зямлі.

У ліпені сорак першага іспанец па імені Рубэн Ібаруры афарбаваў сваёй крывёю бераг Бярэзіны. Яго кулямётчыкі шэсць гадзін адбівалі варожыя танкі. Гэта было ў самыя цяжкія, самыя горкія дні...

Потым ён загінуў у сталінградскім стэпе, далёка ад Іспаніі,— такі ж бясстрашны і мужны, як тыя, хто змагаўся і аддаў сваё жыццё за яго радзіму.

Павел ПРУДНІКАЎ

## РАЗЛІЎ

...Усё тут: рыбацкая лодка,
Капа і каса ля яе —
Усе гаспадарчыя сродкі...
Тамы на зялёным «стале»...

Здаецца, што зараз ён выйдзе
З сяннога свайго шалаша
Насустрач знявазе і крыўдзе —
Пакутлівых лёс вырашаць.

Вось тут ён, на гэтай паляне,
Дзе ўвосень бы толькі драмаць,
Складаў неўміручыя планы,
Як жыць нам і як працаваць.

...Разліў — неўміручага сведка,
Як помнік, у будучынь кліч.
Сюды ідуць сёння ў адведкі
Усе, каму дораг Ільіч.

Тадзіяна КЛЯШТОРНАЯ

●

Вецер гладзіць мае валасы,
Ціха сад абудзіўся за домам,
Свет спявае на ўсе галасы —
Ручаём, цёплым дожджыкам, громам.

На узгоркі, лугі і палі
Хтосьці сыпле зялёныя зоры,
І блакітныя вочы вясны
Усміхаюцца небу — азёрам.

А мяне хтосьці ў гай заманіў,
Свежым сокам бяроз напаіў,
І заснуць не дае давідна.
Гэта кліча ў дарогу вясна.

г. Лепель.

## ЮБІЛЕЙ КІНАРЭЖЫСЁРА

Саюз кінематаграфістаў БССР адзначыў 60-гадовы юбілей заслужанага дзеяча мастацтваў рэспублікі, кінарэжысёра Іосіфа Шульмана, пастаноўшчыка мастацкіх кінакарцін «Шчасце трэба берагчы» (па матывах аповесці А. Кулакоўскага «Нявестка»), «Чалавек не здаецца», «І ніхто іншы», «Крыніцы» (па аднайменнаму раману І. Шамякіна) і іншых.

У 1932 годзе вясковы настаўнік з Магілёўшчыны стаў студэнтам Усесаюзнага інстытута кінематаграфіі. І вось ужо больш за 30 год І. Шульман працуе на студыі «Беларусьфільм». Зараз у творчым аб'яднанні тэлевізійных фільмаў ён прыступіў да рэжысёрскай распрацоўкі двухсерыйнай кінакарціны «Цана карты генштаба» (па матывах дакументальнай аповесці беларускага журналіста Н. Рыдзеўскага «Парашуты на дрэвах»).

І. РЭЗНІК.



Алесь АДАМОВІЧ

# ПОЛЕ ПАД МЕСЯЦАМ



**Гэта—урывак з «Хатынскай аповесці», якая мае быць надрукавана ў часопісах «Маладосць» і «Дружба народов». Персанаж-апавядальнік—малады партызан, лёс якога звязаны, пераплецены з лёсам вясковых жанчын, дзяцей, параненых партызан, што чакаюць яго на галодным палескім «востраве»... Асноўная ж тэма ўсёй аповесці—хатынская. АЎТАР.**

...**МЫ ВЯРТАЕМСЯ** на «востраў». Карова ў нас нішто сабе: вялізная, чорна-белая, з агромністым вымем. Мяса будзе, а малачко і ўжо ёсць. Амаль што на руках выносілі яе з вёскі: гаспадар—за рогі, а мы — пад бокі. Хутка і як толькі можна ціха адыходзілі агародамі, а пасля беглі, бадай не шукаючы паратунку ля гучных каровіных бакоў (там, у сярэдзіне, увесь час ёкала), а мы беглі і падштурхоўвалі яе, карову. Каля лесу спыніліся, аддыхваючыся. Узрадаваны Рубеж папрасіў у дзядзькі закурыць, і той збянтэжыўся, што не ўзяў з сабой, залопаў, як певень, па кішэнях чорных галіфэ. Але тут жа, нібы ад прысаку, адхапіў рукі: штаны былі яўна паліцэйскія. І боты не за страх зробленыя, вайсковыя.

— А нішто сабе выбавіліся! — кажа дзядзька.— Як засвецяць ракетай, ну, думаю!..

— Ну, вяртайся, покі цёмна, — кажа Рубеж.

— Ага, пайду, каб не здагадаліся.

— Ну, тады ідзі.

— У нас не паліцыя, а самаабарона. Два дні таму немцы прыехалі, у школе сталі.

— Ідзі, добра.

— Шкада, закурыць не ўзяў.

— Наступным разам.

— Пайду, пасплю яшчэ.

— Ага, паспі.

Мы пабеглі далей, ужо ад дзядзькі. (Усё-такі занадта паліцэйскія на ім штаны, таго і чакай — прывядзе пагоню.) Але нам весела: ці таму, што самі адпусцілі, а цяпер уцёкамі ратуемся («Так вам і трэба, «вылупням»), а, можа, таму, што вяртаемся, нарэшце, на «востраў», і не з пустымі рукамі.

Але скора наша шчыраванне над каровай (штурхялі ў бок) перастала памагаць, карова пайшла сваёю хадой, цяжка калышучы напружанымі бакамі, а потым і зусім стала. Пагладае на нас добрымі недаўмённымі вачамі: вось вымя, малако, чаго яшчэ вам, «вылупням», ад мяне трэба? Мы таксама стаміліся, зняможана сядзім, прыхінуўшыся патыліцамі да сосна́ў, слухаючы праз іхні гуд неспакойную прадсвітальную цішу. Рубеж, пашукаўшы ў сваёй світцы, дастаў расцісную бяроставую «шклянку». На сагнутых нагах, як бы не ў стане выпрастаць калені, не падышоў, а падкаціўся танцам да вымені. Карова нават мукнула яму, як гаспадыні. Рубеж па-ўмельску абгладзіў набухлае вымя, цыркнуў сабе на далонь і памыў цыцкі, выцер далонь аб калена. І задаіў, зацурбоніў у бяроставую «шклянку». Я міжволі рассмяяўся: так гэта падобна на ягоны расказ пра сямейку Вылупняў.

— Вось так і мае дзеўкі з конаўкай бегалі,— сказаў Рубеж.— Шэсць іх у мяне.

— Вашы? А вы пра суседа расказвалі!

— Пра суседа? Можа быць. Кожны каму-небудзь сусед. Ці мала бывае на свеце «вылупняў»?

Тут мне падумалася, што і дома Рубеж быў такі ж, там, тады ж навучыўся ён любую бяду, няўдачу, нешанцаванне любое праганяць ды ашукваць невясёлым смехам—з самога сябе, і часта, мусіць, даводзілася быць вясёлым, з гэткай сямейкай!

Па-дзіцячы тапырачы губы з-за белай шчэці, Рубеж пакаштаваў са «шклянкі».

— Сап'емся мы з табой. Вось гэта жытуха! Пашанцавала і «вылупням»!

Мы па чарзе каўтаем цёплы, пенны, халадком ранішнім прапахлы, дзяцінствам таксама прапахлы напітак і, сапраўды, галасы, словы нашы, смех набіраюць і гучнасці, і безадказнасці — як у п'яных.

— Дзе цяпер наш дзядзька? — раптам успомніў Рубеж.— Добрыя ў яго «чобаты» былі, гаматныя. А штаны ўсё ж паліцэйскія.

Паглядзеў на свае «чобаты» — на сырамятныя лапці, на залубянелыя ад гразі анучы і аборы.

— А можа ён шукае нас, хоча памяняцца на мае? Добра, пабяжым, а то разбаляваліся дачасу.

Перад ноччу мы зноў адпачывалі. Самае труднае было наперадзе. Што нас чакае на шасці кіламетрах адкрытага поля, мы маглі толькі здагадвацца, на добрае, аднак, не надта спадзяваліся. Рубежа зноў пацягнула на ягонае безуважна-бескантрольнае мармытанне— таксама невясёлы знак, прыкмета. Адвязваючы ад дрэва паспакайнелую, ужо сытую ад сакавітай лясной травы карову, шкадуе — гэты раз за карову, замест яе:

— Заставалася б я лепш зубрам! Усё роўна трэба па лесе бегаць. Затое была б зубрам!

Паспрабавалі запэцкаць гразёй белую пярэстасць на каровіных баках.

— І ўдзень цябе відаць, і ўночы, — дакарае Рубеж.

Ноч паступова распаўзаецца з лесу на падлесак і ўсё далей на поле: ад гарызонта папаўзла да неба, сціраючы ценем няяркі водбліск дня. Але паявіліся новыя водбліскі — ад пажараў, яны кладуцца на цёмнае сырое неба мнагаслойна, вясёлкава, гэтак, як газа на вадзе. Там, дзе пажараў няма, дзе выгарала ўжо ўчора, пазаўчора, неба чорнае, як сажа, а на ім апошнія іскры-зоркі.

Трывожная пустэча поля засмоктвае нас, як труба, міжволі пачынаеш спяшацца, і вось пусціліся бегма. Рубеж падварушвае карову дубцом, я намагаюся ўвесь час адварочваць яе галаву ад рэдкага, самасейнага жыта. Ёй усё здаецца, што мы ўжо дасяглі мэты і можна заняцца траўкай. Вінтоўку сваю я нясу за ствол, бо кароткая ж стала. Страляць з яе, беспрыкладнай, можна ад жывата, як немцы з аўтамата, але ж, можа, не спатрэбіцца. Вось толькі гэтае поле перайсці.

Поле не аралі, не засявалі ўжо колькі год, але старыя баразны засталіся, нечаканыя, небяспечныя для каровы. А нам яе ногі даражэй цяпер за ўласныя. Ідзем ужо мы амаль гадзіну, кіруючыся ўсё лявей і лявей, але зарыва таксама ўлева спаўзае, нам напярэймы. Яно пераліваецца з-за краю гарызонта на наша поле. Гэта непакоіць усё больш: менавіта там невысокі грабеньчык лесу, да якога імкнемся мы. Ужо вершаліны елак відны на трывожным небе. І чым бліжэй да лесу, тым шпарчэй стараемся ісці. Рубеж падганяе карову дубцом, я тузаю, цягну за повад. Карова збіваецца з нагі, капыты суха, асуджана б'юцца адзін аб адзін.

Раптам нешта хрумснула, карова спатыкнулася. Першая думка — ногі! Зламала!

На нас вадаспадам упала святло ракеты, святло густое, сляпучае. Я яшчэ паспеў разгледзець каля самага лесу стагі сена. Азірнуўся і ўбачыў Рубежа, на нагах, жывога. І адразу ж паімчалі на нас, міма нас, праз нас вогненныя іголкі. Б'е кулямёт—ва ўпор, з-за стога плюючыся агнём. Здалося, дзесяткі гэтых настырна-тонкіх іголак праціналі прастору, якую ўсю заняло маё няўклюднае, аграмаднае, пазбаўленае апоры цела. Адпусціўшы повад, упаў на зямлю. Я ляжаў і вырываў са свядомасці гэтыя іголкі. Як стрэмкі, пераконваючы сябе, што жывы ж вось і нават не паранены!

Карова спакойна скубе траву — па гэтым слабым гуку зразумеў, што страляніны ўжо няма. Скончылася раптоўна, як і пачалася Але блізкі лес ужо не здаецца збаўленнем, ён пагрозліва, цяжка навісае над намі, што распасцёртыя на зямлі. Рубеж ляжыць непадалёк ад мяне, нерухома і цярпліва. Я зрабіў спробу, не ўстаючы, зла́віць карову за повад, што звісаў з яе шыі, але яна чмыхнула, падалася ўбок і пачала нюхаць зямлю. Не адважваючыся паклікаць Рубежа, я папоўз да яго. І толькі, калі быў зусім побач, падумаў благое: чалавек ляжыць тварам да зямлі, зімовая шапка, што ўпала з галавы, здаецца пустой, як чаша, як пакінутае гняздо. Рука мая кранулася галавы, валасоў Рубежа, неспадзявана мяккіх і цёплых (гэта мае пальцы адзначылі, запомнілі!).

— Цімох! Цімох! — я чамусьці назваў яго па імені, упершыню, і яно прагучала як чужое. Але гэта і быў ужо не Рубеж, а нехта, хто паявіўся замест яго. Рубеж пакінуў мяне аднаго—адзін на адзін з г э т ы м, перад самым лесам, дзе за стагамі стаіліся ворагі. З кожным імгненнем той, што ляжыць побач са мной, робіцца ўсё больш мёртвым, чужым. І рукі мае зрабіліся ліпкія і вялікія ад таго, што дакраналіся да яго. Я паспрабаваў забраць вінтоўку Рубежа, але нерухомая рука яго не аддае, трымае моцна. Нібыта нехта раней мяне перахапіў вінтоўку.

Нібы даючы мёртваму яшчэ час для чагосьці, я пакінуў яму вінтоўку і тым часам пачаў выграбаць патроны з ягонай сумкі. У Рубежа вінтоўка нямецкая, патрэбны і патроны ягоныя. Пазапіхваў патроны сабе ў кішэні і зноў пачаў выслабаняць вінтоўку з мёртвай рукі. Рука пацягнулася следам за вінтоўкай і нарэшце адпусціла.

Я перапоўз у зарослую травой старую баразну, каб лепей было пасля адыходзіць і страляць, калі пойдуць сюды ад лесу. Успомніў і пашукаў позіркам карову. Яна хутка аддаляецца ад нас. Спачатку яна белая на цёмным фоне лесу, а калі выйшла на зарыва, зрабілася, нібы вугаль,— чорная. Нават повад відзён, ён целяпаецца, звісае да зямлі. Ногі яшчэ ў цемені, а тулава, галава на фоне барвовага неба. Аддаляючыся, выцягваючы ногі з цемені, як з гразі, карова робіцца вышэйшай, вырастае. Тое, што карова пакінула нас, адразу вярнула мяне да галоўнага, я падумаў пра «востраў». Але той, хто ляжыць непадалёк, патрабавальна чакае ад мяне нечага. Я зноў папоўз да яго. Паспрабаваў, падбіўшы руку пад цяжкое, як гнёт, цела, цягнуць яго — наўздагон карове. І працягнуў ужо колькі, пакуль не зразумеў, што не гэта я хацеў зрабіць. Мёртвае цела чакала.

Карова ўсё чарнейшая і чарнейшая ад святла над гарызонтам і ўсё больш вырастае, хутка і весела вырываючы ногі з чарнаты. Я адклаў вінтоўку ўбок і рукамі, зліплымі ў пальцах, падгарнуў колькі зямлі да ног Рубежа. Мёртвы зноў рабіўся Рубежам, я ўжо звыкаўся з явою, з думкай, што Рубеж забіты, мёртвы. Нагарнуў яшчэ зямлі, зрабіў гэта, нібы пытаючыся згоды ў мёртвага. А наша карова знікае, яе размывае святлом, і яна нібы растае, ногі ўжо не дастаюць да мігатлівай рысы гарызонта. Я ўстаў на калені і ўсчаў таропка гарнуць вільготны пясок пад Рубежа, але яшчэ не ўкрываючы ім яго. Я гарнуў пясок рукамі, каленямі, самімі грудзьмі, бадай што тварам, я нібы сам закопваўся ў зямлю і ўсё баяўся, што гэтыя мае натужныя, парывістыя рухі зноў абрынуць на нас кулямётны агонь. Але чым вастрэй адчуваў сваю неасцярожнасць, тым неасцярожней, спяшаючыся, рабіў усё — назнарок, на злосць нечаму, камусьці... Пясок у мяне ў роце, за каўняром, у валасах. Нарэшце я наважыўся — адным рухам нагарнуў горку жвіру на мёртвага Рубежа. Я рабіў гэта, стараючыся не глядзець, не думаць, хутка, таропка, каб скончыць, не адчуўшы ў с я г о. З нейкага імгнення ўжо не дазваляў падступіцца да сябе таму, што адбылося; я быў перапоўнены, а лішак выцякаў цераз край. На шчасце для чалавека, такое магчыма.

Мокры, абліваючыся брудным потам, я застаўся адзін сярод поля. Я так спяшаўся засыпаць пяском, схаваць пад ім мёртвае цела, каб адарвацца ад гэтага месца, паўзці за нашай каровай, але вось скончыў і ляжу нерухома. Усё раптам здалося такім нерэальным, захацелася проста перачакаць, пакуль усё мінецца само па сабе. Я безуважна назіраю, як знікае карова, тоненькія ногі зусім не кранаюцца зямлі, яна імі жвава перабірае, адштурхоўваецца ад святла,— мігатлівае, яно лёгкай парай расплываецца над гарызонтам.

(Да гэтага часу не магу зразумець, чаму так дзіўна паводзіліся тыя, што абстралялі нас з-за стагоў. Магчыма, гэта быў нямецкі «сакрэт», а не засада, і яны проста пагарэзілі, таму што «сакрэт» павінен толькі назіраць, не выдаючы сябе. Але ж надта адкрытыя мы былі іхняму кулямёту на падсветленым полі—спакусліва!)

Нарэшце я адпаўзаю ад лесу, ад Рубежа, ад жахлівых кашмараў—следам за каровай, тоненькія ногі якой зноў пачалі мясіць чарнату, патанаюць за лініяй яркага гарызонта. Я валаку вінтоўку забітага, паўзу з цяжкай тупой абыякавасцю, раблю адзінае, што магу, не спадзеючыся ўжо ні на што.

Карова раптоўна замерла на месцы. Нахіліла галаву, панюхала гарызонт і, рэзка збочыўшы, пайшла ўлева і назад, зноў да лесу. Я таксама папоўз туды, напярэймы ёй. Карова зноў узышла на светлую палоску гарызонта, і таму, што гляджу на яе знізу, як з цёмнай ямы, здалася яна мне аграмаднай і зусім чорнай, нейкі зубр-перастарак, «адзінец». Пот залівае вочы, мяшаецца з ліпкай крывёй, якою я вымазаў шыю, са жвірам, у якім пэцкаюся я,— падобны на тапельца, што робіць апошнія безнадзейныя рухі. А карова наблізілася, мы блізка адно ад аднаго, а яна зноў адыходзіць убок, метраў на сто ад мяне. Туды, да лесу, дзе стагі, дзе сядзяць немцы, і я нічога ўжо не магу! Ніводнага руху не магу больш зрабіць. Слёзы змяшаліся з брудным потам на маім твары, сцякаюць на ліпкую шыю. Я ўзяў камяк зямлі і квола шыбнуў услед карове, якая зблізку зноў выдае пляміста-белай, рэальнай—памахвае хвастом. Цяпер, аднак, яна куды недасяжней для мяне, чым калі апускалася за гарызонт. Повад, нібы здзекуючыся з мяне, матляецца ля яе пярэдніх ног.

Мне здавалася, што мая крыўда, што мая нянавісць да яе гэта зрабілі: карова раптам спатыкнулася, наступіўшы на повад, і стала, нюхаючы зямлю. Я па-драпежнаму пагробся да яе, невядома адкуль вярнулася да мяне сіла. Ад стомы зубы нясцерпна шчымяць, нібы хочуць вырваць сябе з пашчэнкаў. Я паўзу і скрыгачу зубамі, і абліваюся не то потам, не то слязьмі, грабуся да гэтай гадаўкі, да гэтага забойцы, каб ухапіцца за повад і замерці, — ужо выратаваным. Хоць бы на адну адзіную хвіліну замерці, нерухома ляжаць, ведаючы, што не ўцякае, што можна не варушыцца.

Караскаючыся, сапучы перад ёю, я палохаю карову, яна перастала скубці траву, глядзіць, слухае, гатовая скочыць убок і ўцячы. Мокры і знясілены, я зласліва шапчу салёнымі вуснамі: «Кароўка, кароўка, кароўка...» І яшчэ чамусьці: «Кось, кось, кось...» Але не каровай і не канём, а хітрым здзеклівым забойцам уяўляецца мне гэтая істота: яна заадно з тымі, што заселі каля лесу, за стагамі, і зараз заб'юць мяне. Калі кранецца з месца, пачне ўцякаць, я ўскочу на ногі — няхай страляюць! Я цягнуся да повада, быццам ён мяне з прадоння выцягне, толькі б ухапіцца! Карова, трохі прывыкнуўшы да мяне, зноў жуе, повад матляецца ля зямлі, метраў за дзесяць ад мяне!— я бачу мутнаваты бляск яе вока і баюся глядзець, баюся напалохаць прагнасцю і злосцю, што ў маіх вачах. Я ўжо ўсміхаюся мокрай шчакой, шапчу нейкія словы, заміраючы ад пяшчоты і нянавісці. І ціхенька, ціхенька падпаўзаю, не перастаючы ўсміхацца і шаптаць.

Учапіўся за повад так, што карова спалохана рванулася, працягнула па зямлі маё стомленае і шчаслівае цела. Як хочаце цяпер, а я буду ляжаць! Ляжаць, ляжаць...

Тварам да заплямленага святлом неба, услухоўваючыся ў лясную цішу, шчасліва ўбіраючы ў сябе блізкае дыханне каровы, я ляжу і хвіліну, і другую. Месяц проста над маім пасвяжэлым тварам. На круглым дыску, як за матавым жоўтым шклом, знаёмыя з дзяцінства цені-сілуэты, і яны папраўдзе падобны на чалавечыя: і постаць таго, што падае, і таго, хто адхіснуўся, ахоплены жахам...

Цяпер мы пасоўваемся так: я — задам, на баку, папіхаючыся локцем, вінтоўкай; карова, палохаючыся гэтай маёй позы і рухаў, то рвецца ўбок, то адстане, напінаючы повад, робячы кругі. Калі немцы назіраюць, іх, мусіць, дзівіць гэты цырк. А што калі яны ўзлескам пашасталі туды, куды я паўзу, цягну карову? Ці ўжо чакаюць там? А я спіной, задам — проста ў рукі да іх!?

Не ведаючы, што рабіць, я лёг зноў, чакаю. Карова стаіць нада мной, спалохана напяўшы повад, у пуклявым воку яе чорна пераліваецца далёкае зарыва. Раптам яно кругла ўспыхнула, каровіна вока, бліснула. Ракета, шчоўкнуўшы, павісла над

# ДЗВЕ БІЯГРАФІІ Даіра СЛАЎКОВІЧА

Так, у яго нязвычнае для нашых мясцін, дзіўнавата ненаскве імя — Даір. Дакладней — Даір Хведаравіч. Ды, бадай, толькі пра імя гэта можна і сказаць. Бо ва ўсім астатнім ён — зусім звычайны ўздзенскі хлапец (хай даруе мне Даір Хведаравіч, бацька дзвюх сімпатычных дзяўчатак, гэтае слова): шырокі, праставата-адкрыты твар, чысты, гэтакі ж адкрыты пагляд светлых вачэй, даверлівая, крыху сарамліва-наіўная ўсмешка. Ён сядзіць насупраць мяне ў сваім невялічкім загадчыцкім кабінеціку і роўным, даволі гучным голасам (сказваецца, відаць, шматгадовая работа з дзецьмі) расказвае:

— Ёсць тут у нас хлапчук адзін. Імя, пэўна, нярварта называць. Саша, напрыклад. А якая розніца, каб быў Мішам ці Сяргеем? Неблагі, адчуваю, хлапчук, а вось дзесьці спатыкнуўся. Хутчэй не сам ён, а бацькі яго — ад рук адбіўся, вучобу закінуў. Ды каб жа толькі гэта! Дзе што, як кажуць, кепска ляжыць — пацікавіцца. Адным словам, у міліцыі на ўліку. Паспрабуй, зацягні яго ў бібліятэку, прывучы да кнігі Ого, ён цябе навылёт бачыць: таксама мне выхавацелі знайшліся! Дачуўся я: маляваць любіць. Можа тут кручок які хаваецца, за які можна зачапіцца? Сустракаю, кажу: так і так, брат, мне часу няма, а трэба альбом афарміць, пра касманаўтаў, мо выручыш? Не ў службу, а ў дружбу... Прыйшоў. Паводзіць сябе незалежна так, задзірыста, нават з выклікам. Але — альбом зрабіў. Што рабіць, думаю, на што клюне? Проста так прапанаваць кнігу — дарэмна, свісне праз зубы і пойдзе. А калі «з падыходам»? Запрашаю ў кабінет і ледзь не па-змоўніцку да яго: дзякую, брат, выручыў! Не ведаю нават, чым табе аддзячыць! А ён: глупства, кажа, колькі там той работы! Не, брат, кажу яму, справа не ў рабоце, а ў тым, што выручыў мяне, дапамог. Ведаеш што, кажу, ёсць у мяне адна кніга, абы каму я яе не даю, а табе за сяброўскую паслугу — магу даць, калі хочаш, разумеецца. Кажу такое, а сам цікую: паверыць у шчырасць маіх слоў ці не паверыць? Бачу: нібыта верыць. Што за кніга, пытаецца. А вось зірні, кажу, і лезу ў стол, знарок доўга там корпаюся, быццам яна ў мяне і праўда прыхавана... Адным словам, пайшоў ад мяне з кнігай...

Чытач, пэўна, здагадаўся ўжо, што Даір Хведаравіч Слаўковіч — бібліятэкар. Праўда, не проста — бібліятэкар. Кажучы гэта, я маю на ўвазе не тое, што ён загадчык Уздзенскай раённай бібліятэкі, а тое, што ягоная бібліятэка — дзіцячая. А гэта больш істотна, чым можна падумаць на першы погляд. Даць кнігу даросламу чытачу — гэта значыць, адкрыць яму акно ў свет ведаў, у свет прыгожага. У жыцці дзіцяці кніга мае куды большае значэнне: яна не толькі вучыць, але і выхоўвае. І, можа быць, апошняе найперш важна. Гэта добра разумее Даір Хведаравіч. Той свой расказ пра хлапчука ён закончыў так:

— Далучыць дзіця да кнігі — не самамэта. Галоўнае — накіроўваць яго чытанне так, каб разам з кнігай як крыніцай ведаў прыйшла да яго кніга-выхавацелька. Выхавацелька не толькі густаў, эстэтычных пачуццяў, але і высокіх чалавечых — маральных і грамадзянскіх — вартасцей.

Можа быць, у чыіх-небудзь вуснах словы гэтыя падаліся б мне напышлівымі і халоднымі, але ў Даіра Хведаравіча яны прагучалі натуральна і шчыра. Гэта сапраўды яго ўласнае перакананне. «Усім добрым ва мне я абавязаны кнігам...» Для яго гэта не проста агульнавядомы крылаты выраз...

Да вайны Даір паспеў скончыць толькі першы клас, а зноў сесці за школьную парту яму давялося праз многа-многа гадоў. Голад і холад ваеннага ліхалецця, блакадныя дні і ночы, праведзеныя ў балотных лясах (бацькі былі партызанамі), не мінуліся бясследна: Даір цяжка захварэў. Яго аднагодкі бегалі ў школу, каталіся на лыжах, улетку хадзілі ў лес і на рэчку, а ён нерухліва ляжаў у ложку. Слухаліся толькі рукі. І гэтыя рукі працавалі. Яны малявалі, выразалі што-небудзь з дрэва, вышывалі (няхай сабе не хлапечы, але ўсё ж занятак), а найчасцей трымалі кнігу. Менавіта тады, у самыя пакутлівыя і жахлівыя часіны жыцця, яго душу паланіла кніга. Да яго прыходзілі сябры, настаўнікі (Даір вучыўся дома, у ложку), але найпершымі яго сябрамі і настаўнікамі, найлепшымі памочнікамі і дарадцамі былі кнігі (Можа быць, з усіх людзей, якія прыходзілі яму на дапамогу ў той час, найбольшую прыязнасць і ўдзячнасць Даір Хведаравіч захаваў да Алеся Іванавіча Махнача — цяпер пісьменніка, а тады сціплага вясковага бібліятэкара). Яны ж, кнігі, яшчэ тады, у часы цяжкой хваробы, закінулі ў сэрца падлетка неадольную прагу творчасці, падштурхнулі яго і самому паспрабаваць свае сілы і здольнасці. І Даір, прыставіўшы да грудзей кардонку, шмат пісаў — вершы, апавяданні.

Кнігі, якія прыйшлі да яго ў дні і гады хваробы... Яны і цяпер займаюць у хатняй бібліятэцы Даіра Хведаравіча самае пачэснае месца. На многіх з іх — дарагія і кранальныя надпісы. Вось першае выданне «Маладой гвардыі» А. Фадзеева. На кнізе напісана: «Дарагому Даіру Слаўковічу! На памяць аб радасным дні ўступлення ў камсамол, так хвалююча апісанаму ў тваіх вершах. Хай гэтая кніга напамінае табе аб нашай шчырай сімпатыі і добразычлівасці да цябе, маладога члена ВЛКСМ і сапраўднага грамадзяніна нашай Радзімы. Чытай, Даір, вучыся ў маладагвардзейцаў мужнасці і доблесці, іх беззапаветнай вернасці нашай сацыялістычнай айчыне».

— Вясной сорак восьмага года,— тлумачыць Даір Хведаравіч,— мяне прынялі ў камсамол. Мне ўручылі білет дома, я прыняў яго лежачы. Вельмі расхваляваўся і расчуліўся. Пад уражаннем гэтага напісаў верш і паслаў у рэдакцыю газеты «Знамя юности» — тады яна называлася іначай. А праз некалькі дзён атрымаў ёдтуль вось гэтую кнігу, якая стала для мяне больш чым дарагой.

На томіку А. Пушкіна выдання сорак восьмага года надпіс іншы: ««Слаўковічу Даіру, вучню 5-га і 6-га класа Уздзенскай школы. За ўдзел у мінскім абласным конкурсе на лепшы літаратурны твор, прысвечаны 30-годдзю Беларускай ССР». Я міжволі звярнуў увагу вось на гэтыя радкі: «вучню 5-га і 6-га класа...» Даір Хведаравіч усміхнуўся:

— У той год хвароба крышачку адпускала мяне, не так пакутаваў ад галаўнога болю, вось і ўмудрыўся скончыць заадно пяты і шосты класы.

Але найбольш, відаць, крануў мяне надпіс на кнізе М. Горкага «Маці»: «На памяць у гонар таго, што першы раз за чатыры з паловай гады цяжкай хваробы схадзіў у цырульню, дару гэтую кнігу свайму любаму сыну. Мама. Жнівень 1949 года». Я ведаў, што Даірава маці памерла, ледзь паспеўшы ўбачыць сваю першую ўнучку, якой зараз чатырнадцаць гадоў, і таму не стаў ні аб чым распытваць. Але пазней, у гаворцы, Даір Хведаравіч сам расказаў мне пра тое памятнае «падарожжа» ў цырульню. Маці напісала так, пэўна, для таго, каб падбадзёрыць сына, бо да цырульні, якая была зусім непадалёк ад дома, Даір ішоў вельмі доўга і ішоў не адзін, а разам з маці, якая несла табурэтку: праз кожныя некалькі крокаў сын сядаў на тую табурэтку і адпачываў. Гэтак жа, поруч з маці, якая несла тую ж табурэтку, прыйшоў ён у пяцьдзесят другім (яму было тады дваццаць гадоў) у дзевяты клас уздзенскай дзесяцігодкі. Гэта была яго не першая і не апошняя перамога...

Я не дужа дасведчаны ў тонкасцях бібліятэчнай работы. Кажуць, што адзін з важнейшых паказчыкаў тут — колькасць так званых кнігавыдач. Магчыма, яно так і ёсць. Тым не менш, мне думаецца, гэта ўсё ж не галоўнае. Бібліятэка — не проста пункт абмену кніг, а ўстанова, найпершы абавязак якой — работа з кнігай, а значыць, з чытачом. Дык вось, у гэтым сэнсе Уздзенская раённая дзіцячая бібліятэка — асяродак карпатлівай, вялікай, я б сказаў нават — агромністай, разнастайнай работы з чытачом. Для нагляднасці — некалькі прыкладаў.

Аднойчы, колькі гадоў назад, на чарговым ранішніку, на якім ішла гаворка аб ваенна-патрыятычнай кнізе, узнікла думка: стварыць пры бібліятэцы атрад чырвоных следапытаў. Думка спадабалася, такі атрад быў створаны. З дапамогай бібліятэкара (дапамога была неназойлівай, знешне непрыкметнай) чырвоныя следапыты паставілі перад сабой зусім пэўную мэту: знаёмства з гісторыяй падпольнай і партызанскай барацьбы роднай Уздзеншчыны. Напачатку, зноў жа, была кніга: дзеці старанна перачыталі ўсё, што было ў бібліятэцы аб жыцці і барацьбе народных мсціўцаў. А пасля пачалася перапіска, шматлікія экскурсіі па былых партызанскіх сцежках, сустрэчы з былымі партызанамі і падпольшчыкамі, цікавыя знаёмствы і незабыўныя ўражанні. Чырвоныя следапыты адкрылі нямала новых і забытых імёнаў герояў, афармілі некалькі альбомаў, прывялі ў парадак закінутыя магілы і нават паставілі на іх зробленыя сваімі рукамі помнікі-пірамідкі. Ці бібліятэчная гэта ў звычным сэнсе работа?



Аказваецца, можа быць і бібліятэчнай. Як і агульнараённы сход моладзі «Хачу быць сапраўдным», на які былі запрошаны падлеткі, што неаднойчы траплялі ў дзіцячы пакой міліцыі. Падрыхтаваны і праведзены ён быў пры самым чынным удзеле раённай дзіцячай бібліятэкі.

Альбо яшчэ прыклад. У бібліятэцы праходзіць ранішнік навукова-пазнавальнай кнігі, а канчаецца ён... на жывёлагадоўчай ферме саўгаса «Уздзенскі». І падобныя экскурсіі для работнікаў бібліятэкі — не рэдкасць.

Сёлета, у юбілейны для нашай Радзімы год, тут нібыта сама па сабе нарадзілася новая форма работы з чытачом: літаратурныя падарожжы пад дэвізам «Мая Айчына — СССР». З найбольшай ахвотай і цікавасцю «падарожнічаюць» хлопчыкі і дзяўчынкі па роднай Беларусі і, у прыватнасці, па любай Уздзеншчыне. У апошнім ім вельмі хораша памагаюць пісьменнікі-землякі—частыя госці бібліятэкі. Зрэшты, частыя госці тут не толькі землякі: бадай, ніводзін беларускі пісьменнік, які па той ці іншай прычыне трапляў ва Узду, не мінаў дзіцячай бібліятэкі—Даір Хведаравіч не прапусціць такой нагоды, каб не запрасіць дарагога госця на сустрэчу са сваімі чытачамі...

Васемнаццаць гадоў працуе Даір Хведаравіч у бібліятэцы. Прыйшоў туды ў пяцьдзесят чацвёртым, пасля заканчэння школы, праз восем гадоў (за тыя гады ён паспеў завочна скончыць бібліятэчны факультэт Мінскага педінстытута) стаў загадчыкам. А прывяла яго ў бібліятэку, вызначыла яго лёс і прызванне ўсё яна, кніга, найвялікшы цуд, створаны чалавекам. Ну, а пра тое, што праца бібліятэкара для яго не служба, а прызванне, гаворыць хоць бы тое, што Уздзенская дзіцячая не першы год носіць званне «Бібліятэкі выдатнай работы», а яе загадчык узнагароджаны шматлікімі граматамі і значком «Выдатнік культуры СССР»...

Вось такая яна, жыццёвая біяграфія Даіра Хведаравіча Слаўковіча—нялёгкая і мужная, мэтаімкнёная і змястоўная. Ёсць у яго і другая біяграфія—творчая. Праўда, сам Даір Хведаравіч на гэты конт больш сціплай думкі («зроблена яшчэ вельмі і вельмі мала і не заўсёды так, як хацелася б»), але тым не менш...

...Тое дзіцячае захапленне літаратурнай творчасцю з гадамі не сцёрлася, не забылася, а набыло акрэсленае і ўсвядомленае жаданне пісаць, падзяліцца з іншымі набыткамі сваёй душы і сэрца, а работа ў бібліятэцы, штодзённыя сустрэчы і сутыкненні са светам дзіцячых радасцей і засмучэнняў, мар і памкненняў падказалі тэмы, матывы, сюжэты, урэшце—вызначылі зусім канкрэтнага і пэўнага адрасата. І недзе з пачатку 60-х гадоў у перыядычным друку пачынаюць з'яўляцца ягоныя апавяданні і гумарэскі.

Даір Слаўковіч не выдумляў ні сваіх герояў, ні тых сітуацый, у якія яны траплялі. Героі ягоных твораў прыходзілі да яго самі і самі ж расказвалі яму, свайму любімаму бібліятэкару, пра ўсё, што з імі здаралася, пра што думалі, чым захапляліся ці абураліся. Можа быць, таму апавяданні яго і прываблівалі перш за ўсё нявыдуманасцю сюжэтных калізій і даверлівасцю інтанацый, а хлопчыкі і дзяўчынкі трымалі сябе ў іх непасрэдна і натуральна.

У 1969 годзе з апавяданняў сабралася кніжачка з харошай, мілагучнай назвай «Каласавічок». Уяўляю, як радаваўся ёй аўтар! Гэта была яшчэ адна яго перамога—творчая і, пэўна ж, жыццёвая.

Сёння ў яго набытку таксама невялікая кніжачка пра піянера-партызана Косцю Будніка «Сцежкаю мужных» (з'яўленню яе Даір Хведаравіч абавязаны рабоце з чырвонымі следапытамі), апавяданні ў калектыўных зборніках «Піянеры-героі» і «Крынічка».

У канцы 1970 года Даіра Слаўковіча прынялі ў члены Саюза пісьменнікаў...

...Сонечны, зусім па-летняму цёплы красавіцкі дзень. Мы ідзем з Даірам Хведаравічам цэнтральнай уздзенскай вуліцай. З ім раз-пораз здароўкаюцца—дарослыя, а часцей дзеці. Я не здзіўляюся, бо паспеў пераканацца: няма, відаць, школьніка ад першага да восьмага класа, які б не ведаў дарогі ў бібліятэку, да Даіра Хведаравіча. Я спытаў пра іншае—пра настрой, пра тое, што пішацца зараз і што просіцца напісацца.

— Настрой ніштаваты,—адказаў са сваёй даверлівай, сарамліва-наіўнай усмешкай Даір Хведаравіч.—Вясновы. Люблю гэтую пару. Люблю такой часінай пахадзіць па лесе. Лес увогуле люблю. Праўда, не дужа часу застаецца на гэта.—Ён памаўчаў, затым дадаў:—А пра тое і казаць ніякавата. Хваліцца яшчэ няма чым... Неўзабаве павінна выйсці ў выдавецтве «Беларусь» невялікая аповесць «Хвядоскавы канікулы»—пра гарадскога хлопчыка, які прыязджае на канікулы ў вёску, пра тое, як ён далучаецца да таго, чым жывуць тут, у вёсцы, не толькі яго аднагодкі, але і дарослыя. Адрасуецца аповесць дзецям піянерскага ўзросту... Падрыхтаваў кніжку гумару і сатыры, працую над новай кніжкай для маленькіх, у якую мяркую ўключыць апавяданні і невялічкую аповесць—ёсць яе задумка...

Вакол свяціла сонца, у гародчыках пры вуліцы зелянелі кволыя лісточкі парэчак і агрэсту, гаманліва беглі насустрач малыя і юныя ўздзенцы...

**Мікола ГІЛЬ.**

---

тым месцам, дзе застаўся Рубеж. Другая — у наш бок. І тут жа — тонкі вогненны струмень. Колькі куль, хлюпнуўшы, упіліся ў каровіна цела. Яно нібы ікнула, вялікае і няўклюднае, глытнуўшы іх. Я тарганулся да яе, на дапамогу, быццам яшчэ мог нешта зрабіць, паправіць, карова таксама падалася да мяне і ўпала на ўраз аслабелыя пярэднія ногі. Шырока і да вусцішнасці па-чалавечы яна матляла галавой з боку ў бок, потым пляснулася ўсім аб зямлю і замерла. Ногі зноў таргануліся, неспадзеўна і рэзка, балюча ўдарыўшы мяне па локці, адштурхнуўшы.

А я ўсё трымаю повад, прыціскаючыся да зямлі.

Пуклявае круглае вока забірае з сабой далёкае зарыва, яно пераліваецца, мігціць у цёмнай глыбіні. Але вока ўжо мёртвае. З адкінутай каровінай шыі б'е, ільсніць чарнатой тугі струменьчык, часам ён падае на мігатлівае люстэрка вока, прыцямняе яго. Зноў успыхнула, узнялася ракета, і я прыціснуўся да каровінага чэрава, хаваючыся, і раптам разгледзеў на вымені белыя пражылкі малака. Ракета згасла, але я ўсё бачу — жывыя белыя нітачкі на чорнай смале крыві. Не ведаю чаму, але менавіта гэтыя белыя струменьчыкі — быццам прабачэння нехта ў некага просіць! — страшэнна на мяне падзейнічалі. Я не проста заплакаў, я бязгучна закрычаў, як ад нясцерпнага болю. Выпацканы крывёй, зямлёй, потам, змардаваны дарэшты, я глядзеў на гэтыя безабаронныя, чыстыя, дзіцячыя струменьчыкі-нітачкі і плакаў, як даводзілася плакаць толькі ў раннім маленстве: кожнай жылкай сваёй, кожным уздыхам. Ва мне жыла такая бязмежная, такая дзіцячая крыўда на ўвесь свет, што абараняцца я мог толькі ёю, жадаючы толькі, каб мне было яшчэ горш, каб зусім ужо кепска было і каб памерці на злосць ці на радасць у с і м  і м...

Немігатлівае, агромністае вока месяца вісела над скутым цішынёй полем, над чорным валам лесу, над барвовым гарызонтам. А ў гэтым воку, як у люстэрку, два чалавекі нешта адзін з адным рабілі, нешта страшнае адбывалася...

# ШУКАЦЬ ТВОРЦУ!

**Пасяджэнне секцыі дакументальнага кіно Саюза кінематаграфістаў БССР, у якім прынялі ўдзел крытыкі, мастацтвазнаўцы, журналісты, творчыя работнікі аб'яднання «Летапіс» студыі «Беларусьфільм», было прысвечана сур'ёзнай і вельмі актуальнай праблеме — чалавек працы на экране.**
**Ніжэй друкуем артыкул пра некаторыя фільмы, аб якіх ішла гаворка на пасяджэнні секцыі.**

Ад здзіўлення перад невядомым, ад імкнення яго пазнаць і асэнсаваць нараджаюцца вучоныя і паэты.

Пра гэта расказвае і фільм «Шукай у сабе творцу» (сцэнарысты І. Яфрэмава, Ул. Дзвінскі, рэжысёр Ул. Дзвінскі).

...На экране—партрэт мужчыны ў старажытным камзоле і напудраным парыку. Глыбокія вочы глядзяць горда і крышачку іранічна. Прыдворны токар Андрэй Нартаў. XVIII стагоддзе. Сучаснік Пятра І. У мантажным стыку ўзнікае іншы партрэт. Мужчына сярэдніх гадоў. Добры і разам з тым хітраваты погляд. Перад намі—стругальшчык Мінскага завода аўтаматычных ліній Леанід Патаповіч. XX стагоддзе. Наш сучаснік. Стоп-кадр ажывае, і мы знаёмімся з беларускім рабочым, духоўным нашчадкам вынаходнікаў мінулага.

Гэта чалавек, які не можа не вынаходзіць. Аўтары добра зрабілі, што запісалі яго эмацыянальны, тэмпераментны расказ пра сябе, пра работу. Здаецца, Патаповіч непасрэдна гледачу, як блізкаму сябру, расказвае і пра свае няўдачы, і пра вялікую радасць поспеху.

Хацелася б, каб і зрокавы рад фільма быў на ўзроўні гэтага ўсхваляванага маналога героя. На жаль, інсцэніраванасць шэрагу эпізодаў, скаваныя паводзіны людзей у кадры перашкаджаюць таму, каб фільм стаў сапраўднай з'явай у нашай дакументалістыцы.

Паказаць сам працэс творчай працы на экране, а не толькі расказаць пра яго — задача надзвычай складаная. Вядома, трэба валодаць тэхнікай рэпартажных здымак, умець прымусіць героя быць натуральным перад камерай.

Калі ўсяго гэтага няма, нараджаюцца такія фільмы, як «Трактар учора, сёння, заўтра» (сцэнарыст і рэжысёр І. Цяўлоўскі, аператар Г. Лейбман). Фільм таксама пра творчасць, пра складаную сістэму чалавек—машына. Але ў адрозненне ад папярэдняга фільма, тут чалавек выступае не як творчая асоба, а як біялагічны арганізм ці нават як механізм у гэтай сістэме.

Даведзена да абсурду і кампазіцыя кадра: тры героі карціны, як «святая троіца», рассаджаны рэжысёрам строга сіметрычна і амаль не варушацца на працягу ўсёй размовы.

Пра што гэты фільм? Пра чалавека? Пра трактар? Які ён—дакументальны, навукова-папулярны? На маю думку, ён не вытрымлівае мастацкіх патрабаванняў ніводнага з гэтых відаў кіно.

Любая прафесія можа быць творчай, лічаць стваральнікі фільма «Я працую вадзіцелем» (сцэнарыст А. Шчарбакоў, рэжысёр Ул. Дзвінскі, аператар Ул. Цяслюк). Аўтары знарок выбіраюць героя «ад процілеглага» — не эфектнага, не славутага. Анатоль Сарока—звычайны шафёр з калгаса «Светлы шлях» Маладзечанскага раёна.

Разам з вядомымі героямі працы ўсё часцей на беларускім экране з'яўляюцца героі знешне непрыкметныя (успомнім «Паездку ў Кіршы», «Расказ пра адну дзяўчыну», «Вясковы дзённік» і г. д.). Поспех прыходзіць тады, калі чалавек абраны сапраўды цікавы і экранныя сродкі дапамагаюць нам раскрыць адметнасць героя, зразумець яго «нутро», убачыць яго ў галоўнай справе жыцця (як, напрыклад, у фільме «Пастух»). Мяркуючы па літаратурным сцэнарыі, у аўтараў фільма «Я працую вадзіцелем» такая задума і была. Яны хацелі супрацьпаставіць патэтыку «эфектных» прафесій сціплай аддзанасці шафёра сваёй будзённай рабоце. Таму фільм, што пачынаецца з кадра, у якім узрываецца грузавік і, палаючы, ляціць пад адхон (урывак з фільма «Плата за страх»), далей развіваецца як спакойны расказ пра штодзённыя клопаты калгаснага вадзіцеля.

Што ж, і такі расказ мог быць надзвычай цікавы, калі б мы адчулі творчую натуру чалавека ў яго «малых» справах. Але ж твар галоўнага героя мы бачым у асноўным у вузенькім люстэрку машыны. Голасу Анатоля Сарокі мы не чуем. Тэкст ад першай асобы чытае артыст—і гэта адчуваецца.

Дзяжурна-лірычнымі інтанацыямі, сваёй безабліччнасцю тэкст нагадвае «маналогі» герояў у шэрагу іншых рэспубліканскіх карцін для вялікага і малога экранаў («Прысвячэнне ў хлебаробы», «Дабрэнева, бацькоўскі дом» і іншыя). Нейкая патрыярхальнасць, усярэдненасць стылю ідуць ад унутранай бесканфліктнасці, адсутнасці сапраўднай драматургіі, развіцця і раскрыцця вобразаў.

Не дзіва, што некаторыя фразы проста пераходзяць з фільма ў фільм. «Хлеб—усяму галава. Ужо гэта адно нашай справе высокі сэнс надае»,—кажа герой карціны «Я працую вадзіцелем». «Не будзе хлеба—не будзе мяса, малака. Так! Хлеб—усяму галава»,—гэта з маналога Васіля Шыманскага, старшыні калгаса імя Гастэлы на Міншчыне (фільм «Смак хлеба», аўтары Г. Аркадзьеў, Н. Мнацаканава).

Калі ў мэтазгоднасці выбару цэнтральнага героя папярэдняга фільма можна сумнявацца, то на гэты раз героі абраны сапраўды цікавыя, якім ёсць што расказаць гледачу.

Але сапраўднага кантакту ў іх з аўтарамі фільма (адзначыцца, і з намі) не наладзілася. У кадры не адчуваецца атмасферы ўзаемнай шчырасці і даверу.

Справа ў тым, што аўтары ўвялі ў фільм «не пераварaны», творча не асэнсаваны матэрыял. «Рваны» мантаж, хуткае чаргаванне кадраў не працуе на раскрыццё думкі твора. І ліхаманкавае супастаўленне хлеба-солі, святочных калгасных сталоў з манументальным партрэтам старшыні наўрад ці нараджае нейкія значныя асацыяцыі.

Адначасова з названымі фільмамі на экран выходзяць такія этапныя для савецкай дакументалістыкі фільмы іншых рэспублік, як «Нарымскі дзённік» (пра будаўніцтва Тактагульскай гідраэлектрастанцыі), «Шахцёрскі характар» (пра гарнякоў Данбаса). У гэтых карцінах, якія патрабуюць асобнай размовы, паказана, якім цікавым, шматгранным можа быць чалавек працы ў справе свайго жыцця, калі яна для яго з'яўляецца творчасцю. Думаецца, яны падахвоцяць і нашых дакументалістаў творчай, «белай» зайздрасцю.

**В. НЯЧАЙ.**

НАШЫ *майстры* МАСТАЦТВА

# «ЛЮБЛЮ СВАЮ РАБОТУ...»

Доўгія пустыя калідоры... Здаецца, што тут нікога няма.

Але калі прайсці ўздоўж раду дзвярэй, абабітых чорнай цыратай, і прыслухацца...

...Гул галасоў.

...Няясная, прыглушаная адлегласцю музыка.

...Трэск пішучай машынкі.

...Віск магнітафоннай стужкі.

...Голас дыктара.

Тут яе царства...

— Люблю я яе, сваю работу—мітуслівую, цяжкую, часта няўдзячную...

Так пачалася наша размова з Марынай Дзмітрыеўнай Троіцкай, заслужаным дзеячом культуры Беларускай ССР, галоўным рэжысёрам Беларускага радыё. Гаворыць яна стрымана і проста, умела і дакладна адбіраючы словы. Выразная дыкцыя выдае прыналежнасць да акцёрскай прафесіі.

— Так, вы маеце рацыю — я амаль 18 гадоў аддала Беларускаму тэатру імя Янкі Купалы. Іграла дзяўчынак і хлопчыкаў. А потым настаў такі час, калі заявіў аб сабе ўзрост... Тады пайшла на радыё. Было гэта, вядома, балюча. Ды і цяпер часам як успомню...

Вось нядаўна перабірала старыя рэчы — наткнулася на скрыначку з грымам. Адкрыла... Убачыла пэндзлікі, растушоўкі, грым... І ледзь не расплакалася! Або працуеш, напрыклад, з актрысай ля мікрафона. Прыглядаешся да яе, зайздросціш — яна адтуль...

Выбачайце, калі ласка, адхілілася. Значыць, у 1949 годзе я прыйшла працаваць на радыё. Была такая прафесія — яе цяпер ужо няма — называлася яна «фонік». Справа ў тым, што тады яшчэ не рабілі запісы на магнітнай плёнцы — і ўсе перадачы, нават самыя складаныя, ішлі проста ў эфір. А потым тагачасны галоўны рэжысёр радыё Павел Аўрамавіч Данілаў прапанаваў заняцца рэжысурай і мне. І неўзабаве адбыўся мой дэбют. Гэта быў радыёспектакль «Асенняе лісце»... Праз некалькі гадоў паспрабавала праслухаць запісаны на магнітафонную стужку свой першы радыёспектакль — і аж не паверыла: няўжо я магла такое «стварыць»?!

Марына Дзмітрыеўна весела смяецца.

— Так, час ідзе, мяняюцца густы, павышаюцца патрабаванні слухачоў. Мы расцём прафесійна. А тое, што ты зрабіў, застаецца дакументам часу. Цяпер я б рабіла тую перадачу зусім па-іншаму, а заўтра — заўтра, магчыма, зусім не так, як сёння...

Ёсць, вядома, перадачы, якія перажываюць свой час, — нягледзячы на тое, што ты пайшоў наперад, жывуць самастойным, незалежным ад цябе жыццём, дораць людзям радасць і сёння. Мне пашанцавала — у мяне была такая перадача.

Пачалося гэта забаўна: я стала аўтарам. Правільней, сааўтарам.

У пошуках матэрыялу для радыёпастаноўкі (бачыце, рэжысёру на радыё і гэтым даводзіцца займацца!) я натрапіла на вадэвіль Л. Родзевіча «Збянтэжаны Саўка». Праўда, тады гэта быў яшчэ не вадэвіль, а «Жарт у адной дзеі». Выдадзены ён быў даўно—і даўно забыты. І вось я яго выцягнула.

Уласна, ад жарту Л. Родзевіча засталася толькі сітуацыя — жонка і муж мяняюцца ролямі: жонка ідзе ў поле, а муж застаецца на гаспадарцы. Усё астатняе напісала сама, нават вершы...

Працавалі, памятаю, тады весела, з запалам, з захапленнем. І поспех мелі велізарны. Чаму? Не ведаю. Ці то вадэвіль у нас на радыё рэдкі госць, ці то перамагла наша маладосць, наш вясёлы запал—гэта вам, як радыёслухачу, лепш меркаваць.

Марына Дзмітрыеўна хітравата глядзіць на мяне.

**Я слухаю «Збянтэжанага Саўку».**

**Стары Васіль расказвае байку пра той час, «калі трактараў не было, калі на конях аралі». Пра неразумнага Саўку, які раптам вырашыў, што яго баба лайдачыць ды лясы точыць, пакуль ён на полі надрываецца. Аб тым, як, пасварыўшыся, памяняліся яны сваімі абавязкамі, — і што з гэтага выйшла: гаршчок з капустай разбіўся, сала сабака сцягнуў, курыца куранят не выседзела, конь з поля ўцёк... Вадэвіль з нехітрай мараллю: ведай сваю справу і не зайздросць чужой!**

**Пра гэты радыёспектакль пісалі ўжо, і мне толькі хочацца дадаць, што, на мой погляд, вялікая ўдача Марыны Дзмітрыеўны як сааўтара і рэжысёра — вельмі ўдалае выкарыстанне ў радыёспектаклі народнай песні ў надта сціплым суправаджэнні двух цымбалаў.**

**— Гэта ад беднасці, бо канчаўся ці то квартал, ці то год, і грошай на музыку не было. І я звярнулася да цудоўнага дуэта—цымбалістаў Шмелькіна і Навіцкага. Разам мы і «адшукалі» народныя мелодыі, — успамінае Марына Дзмітрыеўна.**

**А мне здаецца: няхай лепш адзін раз такая беднасць, чым сто разоў самы магутны, самы сімфанічны аркестр на свеце, які адразу б забіў усю цёплую, чароўную ўсмешку радыёспектакля.**

— Аднак «Саўка» застаўся ў мінулым, а мне трэба было жыць і працаваць далей. Было многа работ больш і менш удалых, былі падзякі ў загадах і «горкія» размовы ў начальства.

Марына Дзмітрыеўна задумалася...

— А вось ужо гадоў шэсць, як я займаюся ўласна творчай дзейнасцю толькі эпізадычна. Галоўны рэжысёр нясе, у асноўным, адміністрацыйныя функцыі. Мне вельмі шкада таго мітуслівага, вясёлага часу, калі я ўсю сваю энергію аддавала толькі сваёй рабоце і з захапленнем чакала яе выхаду ў эфір...

Цяпер даводзіцца хвалявацца за мноства перадач адразу—і за свае, і за чужыя: яны ўсе цяпер «мае»... Вось, напрыклад, калі намецілася слабае звяно — скажам, па перадачах грамадска-палітычнага вяшчання, — мы пачалі фантазіраваць, думаць, шукаць. І цяпер у нас ёсць некалькі пастаянных рубрык, якія вядуцца змястоўна і цікава: «На далёкіх мерыдыянах» — аб жыцці працоўных у краінах капіталу; «Дружба» — цыкл перадач аб краінах сацыялізма; ёсць у нас рубрыка «Для веруючых і няверуючых» — сцэнкі, вершы, фельетоны на атэістычныя тэмы. І колькі мы ўжо «анафем» атрымалі за

# ПРЫНЯТЫ Ў САЮЗ КІНЕМАТАГРАФІСТАЎ



**АЛІФЕР Барыс Аляксеевіч.** Кінааператар. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў Омску. Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі скончыў у 1964 годзе. На студыях «Туркменфільм» і «Беларусьфільм» быў аператарам дакументальных і мастацкіх кінакарцін: «Начны сеанс», «Пустыня», «Чабанскія сцежкі», «Другое нараджэнне», «Неба, зямля, вада», «Дарога дружбы», «Пагранічнікі», «Беларусь мая сінявокая», «Вясковыя канікулы». Зараз працягвае здымаць шматсерыйны тэлевізійны фільм «Руіны страляюць...»



**ЕМЯЛЬЯНАЎ Леў Васільевіч.** Мастак-грымёр. Член КПСС. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Пахлябайкі Маскоўскай вобласці. Мастацка-рамеснае вучылішча ў Маскве скончыў у 1950 годзе. На студыях імя Горкага, «Масфільм», «Беларусьфільм» прымаў удзел у стварэнні 12 мастацкіх кінакарцін. Сярод іх: «Майская ноч», «Афанасій Нікіцін», «Цяжкае шчасце», «Першыя выпрабаванні», «Масква—Генуя», «Я родам з дзяцінства», «Вайна пад стрэхамі», «Шчаслівы чалавек», «Магіла льва» і іншыя.



**КОНЕЎ Фёдар Ягоравіч.** Кінадраматург. Нарадзіўся ў вёсцы Мужы Цюменскай вобласці ў 1935 годзе. У 1964 годзе скончыў сцэнарны факультэт Усесаюзнага інстытута кінематаграфіі. На Сыктыўкарскай студыі тэлебачання і «Беларусьфільме» па яго сцэнарыях зняты дакументальныя і мастацкія кінастужкі «Зямля пад намі», «Блакітны алень», «Працяг песні», «Ікма», «Шчаслівы чалавек», «Неспадзяванае каханне».



**ОСІПАЎ Фёдар Мікалаевіч.** Кінааператар. Член КПСС. Нарадзіўся ў Навабеліцы Гомельскай вобласці ў 1927 годзе. Усесаюзны інстытут кінематаграфіі скончыў у 1970 годзе. Зняў дакументальныя кінастужкі «Марат Казей», «Бярэзінскі запаведнік», «Агні Беларусі», «Зямля над галавой», «Мазырскі ліст», «Песні Палесся», «Здзіўленне», «Імкненне», «Супрацоўнік крымінальнага вышуку», «Брэсцкая крэпасць» і іншыя. За 1959—1971 гады зняў для кіначасопісаў «Савецкі Узбекістан», «Савецкая Беларусь», «Навіны дня» больш 250 сюжэтаў.

гэтыя перадачы, вы, напэўна, нават і не ўяўляеце! — усміхаецца Марына Дзмітрыеўна.

Слухаю адну з апошніх буйных работ Троіцкай «Вераснёвыя ночы» паводле апавядання Кузьмы Чорнага. Зроблена яна ў 1968 годзе. Чатыры гады — тэрмін немалы ў наш імклівы час. Але больш «блізкай» работы проста няма: пасада галоўнага рэжысёра Беларускага радыё «патрабуе ахвяр». Магчыма, і неапраўданых...

Я слухаю два варыянты работы: чытанне самога апавядання актрысай Л. Давідовіч і інсцэніроўку А. Бараноўскага па апавяданні, дзе Л. Давідовіч выконвае галоўную ролю Агаты. Я маю магчымасць супастаўляць і раздумваць.

Тэкст апавядання ў выкананні адной асобы — або інсцэніроўка гэтага тэксту?

Я — за інсцэніроўку.

Актрыса чытае хораша, чыста, дакладна. Але яна адна. Ёй не дапамагае ніхто і нішто. Вакол — магільная пустата радыёбудкі. Ні шораху, ні гуку, ні музыкі. Яна адна — і адна бярэ на сябе ўвесь цяжар глыбінных плыняў апавядання.



У інсцэніроўцы ж усё — музыка, шумы, галасы акцёраў. Ёсць галасавыя характарыстыкі. Ёсць чароўнасць цёплай ночы, шумы вясковай вуліцы, другія і трэція іграбыя планы.

І ёсць вельмі сціплая, неназойлівая рэжысёрская манера: аддаць усё людзям, пра якіх спектакль, схавацца за іх, не падкрэсліваць сябе—і толькі зрэдку дапамагчы ім музыкай, шумам, рэхам. Спектакль слухаеш з нейкім дзіўным пачуццём радасці пазнавання... Пазнавання чаго? Чагосьці, відаць, вельмі асабістага, уласцівага кожнаму, інакш...

**Марына Дзмітрыеўна Троіцкая падабрала выдатны калектыў. Агата — Л. Давідовіч, якая цяпер ужо нясе толькі сваю задачу — і нясе яе паспяхова — псіхалагічна тонка і глыбока. Цёплы, задушэўны Фелька — Г. Гарбук, вельмі своеасабліва трансфарміраваны голасам Б. Уладамірскага «добры гаспадар» Зыгмусь Чухрэвіч...**

**Але да іх усіх ёсць у мяне прэтэнзія. Уласна, гэта прэтэнзія і да рэжысуры. І нават не толькі асабіста да М. Троіцкай — а наогул да радыёрэжысуры (за вельмі рэдкімі выключэннямі). Чаму акцёрам на радыё дазваляецца «перацісн» у бок «характарнасці»? Гэткае «ўзбуйненне» голасам таго, што мы не можам убачыць. Што гэта — недавер'е да слухачоў, якія «не зразумеюць», калі гэта будзе зроблена больш тонка, мякка, або рашматгадовая прывычка, пэўны «радыёштамп», якога не пазбягаюць нават добрыя рэжысёры?..**

**Ёсць толькі адзін чалавек, да якога я не магу аднесці гэтых слоў,— П. Дубашынскі. Ён прачытаў тэкст ад аўтара так цёпла і задушэўна, што адразу стала ясна: «Вераснёвыя ночы» — гэта расказ мужчыны пра цудоўную жанчыну.**

**Гавораць, гэтая інсцэніроўка адна з лепшых на Беларускім радыё. Што ж, магчыма...**

— Радыё — такая ж творчасць, як тэатр, як кіно, як тэлебачанне. Нават, магчыма, больш складаная ў нейкім сэнсе. Калі тэатр, кіно, тэлебачанне апелiруе да ўсяго комплексу пачуццяў чалавека, то мы адрасуемся толькі да вушэй, а праз іх — да сэрца, — гаворыць Марына Дзмітрыеўна. — І праблем у нас надта многа. Напрыклад, праблема рэжысуры. У асноўным наша рэжысура — гэта акцёры, якія перайшлі да нас з тэатра. У нашай краіне няма ніводнай установы, якая рыхтавала б гукарэжысёраў, рэжысёраў радыё. З кансерваторыі да нас прыходзяць музычныя афарміцелі, а не **гукарэжысёры!** Дзе ж іх браць? І даводзіцца літаральна вырошчваць іх у сябе! Часам бывае і так: вырас чалавек, працуе добра — а праходзіць час, і ён ідзе на тэлебачанне. У некаторым сэнсе наш «малодшы брат» працуе супраць нашых інтарэсаў...

А ўявіце такую карціну: у тэатральным інстытуце рыхтуюць рэжысёраў радыё. Яны загадзя ведаюць, што будуць працаваць у нас, прыходзяць да нас на практыку, спасцігаюць тонкасці рамяства... Мары, мары!

І самы вялікі наш боль — гэта праблема **радыёдраматургіі.** Так, павінна быць такая! Павінен быць дзе-небудзь пры Саюзе пісьменнікаў хоць куточак пры якой-небудзь секцыі для **радыёдраматургаў,** якія пішуць **арыгінальныя** п'есы для радыё!

Не, такога няма. Мы выкарысталі ўжо ўсю класіку, не прайшлі міма ніводнага колькі-небудзь прыкметнага беларускага пісьменніка, каб не інсцэніраваць яго для радыё. Але ж гэта кампрамісныя рашэнні, пры якіх трацяць і радыё, і драматургія.

Вось і зноў мы аб'явілі адкрыты конкурс на радыёперадачу. Да 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. І зноў будзем спадзявацца, што прыйдзе да нас радыёаўтар і дасць нам выдатную радыёп'есу, якая будзе доўга жыць у эфіры...

**Мітусня. Беганіна. Віск магнітафоннай плёнкі. Перагаворы. Стук металу: адзін магнітафон няспраўны і тэрмінова рамантуецца.**

**Бясконца расчыняюцца дзверы:**

**— Марына Дзмітрыеўна, я павінна бегчы на «Апошнія паведамленні».**

**— Марына Дзмітрыеўна, які нумар музыкі?**

**— Марына Дзмітрыеўна, па-мойму, тут трэба выразаць слова...**

**— Марына Дзмітрыеўна, вас да тэлефона!**

**— Марына Дзмітрыеўна, выбачайце, калі ласка...**

Яна сядзіць за пультам. Рухаюцца рукі па мікшэрах, уводзячы то дыктарскі тэкст, то музыку. Вось прыгожы музычны кавалак. Твар яе асвятляецца вясёлай усмешкай, вочы блішчаць...

Гэта яе царства.

— Усё-такі я шчаслівая, што прыйшла на радыё! Шчаслівая, калі працую, калі побач са мной акцёр — мой друг і аднадумца. І шчаслівая ў чаканні моманту, калі загарыцца сігнал: «Мікрафон уключаны!»

**Аляксандр ІГІШАЎ.**

---



**СІМАНАЎ Анатоль Іванавіч.** Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Архангельскае Башкірскай АССР. Кінааператарскі факультэт Усесаюзнага інстытута кінематаграфіі скончыў у 1966 годзе. На Свярдлоўскай кінастудыі і «Беларусьфільме» прымаў удзел у стварэнні мастацкіх кінакарцін «Моцныя духам» і «Анюціна дарога». Здымаў дакументальныя кінастужкі: «Жыве на Палессі чалавек», «Нас вадзіла маладосць», «Двое ў пакоі і ахова», «220 таракаў», «Селькор», «Тайна Івянецкай пушчы», «Першыя 30 год», «Паляванне са старым сабакам» (дыплом за лепшую аператарскую работу на X занальным фестывалі ў Мінску 1969 года).



**ХРАПУЦКІ Рыгор Рыгоравіч.** Мастак-грымёр. Нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Крупец Добрушскага раёна Гомельскай вобласці. Адэскае тэатральна-мастацкае вучылішча скончыў у 1958 годзе. Прымаў удзел у стварэнні мастацкіх кінакарцін вытворчасці «Беларусьфільма» розных жанраў «Каханнем трэба даражыць», «Чалавек не здаецца», «Увага! У горадзе чараўнік», «Крыніцы», «Хрыстос прызямліўся ў Гродні», «Мы з Вулканам», «Чорнае сонца», «Рудабельская рэспубліка».

---

ПАДЗЕІ, ФАКТЫ, НАВІНЫ

# АРКЕСТРУ — 25

**Гэты калектыў нарадзіўся ў першыя пасляваенныя гады.**

**Першыя выступленні. Узлёты, спады... Іх многа было спачатку. Студэнты заканчвалі вучобу, раз'язджаліся, ім не адразу знаходзілі добрую замену.**

**Але ў 1953 годзе кіраўніком аркестра стаў Міхаіл Аркадзьевіч Лісіцын. Вопытны музыкант, добры педагог і выхавацель, ён здолеў зацікавіць кожнага. Моладзь паверыла ў свайго кіраўніка і ў сябе, па-сапраўднаму палюбіла музыку. Наладзіліся пастаянныя рэпетыцыі, узровень майстэрства павысіўся. Пачаў стварацца сапраўдны калектыў.**

**У хуткім часе аркестр з поспехам выступае на першым студэнцкім свяце песні ў Тарту, але найбольш важнай творчай справаздачай калектыў лічыць свой удзел у 1957 годзе ва Усебеларускім фестывалі моладзі і студэнтаў. Журы адзначыла, што выканаўчае майстэрства аркестра на ўзроўні прафесійнага. Дыплом першай ступені, атрыманы тады, быў першай вялікай узнагародай аркестру. Колькі іх было потым — і грамат, і дыпломаў, і заахвочванняў! А самае галоўнае — прызнанне слухачоў, якое расло з кожным годам. Канцэртныя праграмы пастаянна ўскладняліся. Вядучае месца ў іх займала беларуская нацыянальная музыка і музыка братніх рэспублік. Побач з творамі рускай і зарубежнай класікі ў праграме — «Палеская сюіта» Я. Глебава, «Святочная уверцюра» А. Багатырова, «Фантазія на тэмы песень У. Алоўнікава», створаная А. Шпеневым, «Канцэртны вальс» Д. Камінскага. У рэпертуар уключаюцца навінкі нацыянальнай музыкі. Лісіцын умее перакласці для свайго аркестра творы, напісаныя кампазітарамі для сімфанічнага аркестра, пры гэтым ашчадна захоўвае багацце іх.**

**У рэпертуары народнага аркестра народных інструментаў Белдзяржуніверсітэта 70 аркестравых п'ес і столькі ж аркестровак песеннага рэпертуару з рускай і заходняй класікі, беларускай савецкай музыкі і музыкі братніх рэспублік. Гучаць у яго выкананні таксама народныя песні і танцы.**

**У канцэртах універсітэцкага аркестра прымалі ўдзел народная артыстка Савецкага Саюза Т. Ніжнікава, заслужаныя артысты БССР Л. Златава, В. Прышчапёнак, А. Саўчанка, Ю. Смірноў і цымбаліст, заслужаны артыст БССР, лаўрэат міжнароднага і ўсесаюзнага конкурсаў В. Бурковіч. Такія сумесныя выступленні — гэта прызнанне мастацкіх вартасцей аркестра, добрая школа майстэрства для самадзейных музыкантаў. Вучоба ва універсітэце патрабуе пастаяннай і напружанай працы, але без уважлівых прычын ніхто са студэнтаў не прапускае рэпетыцый і канцэртаў, больш таго, чвэрць саставу — выдатнікі вучобы. Калектыў ганарыцца тым, што яго ўдзельнікамі былі Н. Калеснікава — ленінскі стыпендыят, Ю. Шынкар, С. Шушкевіч — доктар фізіка-матэматычных навук, А. Рубінаў, М. Піпчанка, Э. Садоўскі, В. Сідарцаў — кандыдаты навук, В. Іваноў — заслужаны настаўнік Беларускай ССР і многія іншыя.**

**Нядаўна аркестр народных інструментаў Беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга універсітэта імя У. І. Леніна адзначыў свой 25-гадовы юбілей. За многія гады, ва ўмовах пастаяннай цякучасці выканаўцаў, ён не страціў свайго творчага аблічча, захоўвае высокае майстэрства, і ў гэтым заслуга музыкантаў аркестра, яго кіраўніка Міхаіла Лісіцына.**

**Т. КУРЫЛА,**
**дырэктар абласнога дома мастацкай самадзейнасці.**

---

# ЦЯЧЭ «РУЧАІНКА»

Я пазнаёміўся з ім у Палацы піянераў.

— Гена Лапацін,— сказаў ён нечаканым басам і паправіў акуляры.— Вучуся ў 8-й школе.

А пасля мы ішлі з Генам гомельскімі вуліцамі і гаварылі.

— Хочаце, я прачытаю свае вершы?

Чытаў ён хутка, не звяртаючы ўвагі на прахожых:

**Шаблямі драўлянымі,**
**У атаках смелыя,**
**Б'юцца між курганамі**
**Клім і Саша з белымі.**
**Сонца ў небе коціцца,**
**Уцякаюць ворагі**
**Ад чырвонай конніцы,**
**Ад бяды і сораму.**

Пісаць Гена пачаў яшчэ ў пятым класе, а зараз ён — у дзявятым. Гэта былі няскладныя радкі, у якіх ледзь угадвалася рыфма, а рытм кульгаў адразу на абедзьве нагі. Але сярод прыблізных, часам выпадковых слоў ужо тады нерады і трапляўся нечаканы вобраз, радавала смелае параўнанне, трымцела звонкае сугучча. А потым ён прыйшоў у Гомельскі палац піянераў, і яго прынялі ў літаратурна-творчы гурток «Ручаінка», якім кіруе маладая паэтэса Ніна Шклярава.

Акрамя Гены Лапаціна, у гуртку займаецца каля паўсотні хлопчыкаў і дзяўчынак. Аб чым яны пішуць? Што іх хвалюе? Любае сэрцу Палессе і школьная дружба, прыгажосць вясны і ласкавыя рукі маці. Асабліва цёплыя, задушэўныя словы прысвячаюць дзеці роднай Беларусі.

**Дарагая мая Беларусь,**
**Краю родны, цудоўны, як казка,**
**Прыгажуня ў любую пару,**
**Ты прымі маю песню і ласку.**

Гэтыя радкі напісала Таня Хорык.

На занятках гуртка часта гучаць вершы Якуба Коласа і Максіма Багдановіча, Сяргея Грахоўскага і Рыгора Барадуліна, іншых нашых паэтаў. Гуртkоўцы сустракаюцца з гомельскімі літаратарамі, удзельнічаюць у рабоце літаб'яднання пры раённай газеце «Маяк», выступаюць з чытаннем сваіх вершаў і апавяданняў. А ў школах, дзе яны вучацца, юныя паэты прымаюць удзел у выпуску насценных газет, у падрыхтоўцы і правядзенні літаратурных вечароў, чытацкіх канферэнцый. У літаратурна-творчым гуртку «Ручаінка» хлопчыкі і дзяўчынкі спазнаюць законы паэзіі, а заадно — і законы дружбы, сяброўства.

**М. ГЕЛЕР.**

---

# РАДКІ З ПІСЕМ

※ У Слонімскім раённым доме культуры прайшоў куставы агляд мастацкай самадзейнасці прафесійна - тэхнічных вучылішчаў. Першае месца занялі навучэнцы сельскага вучылішча механізацыі № 26, сярод якіх — Ніна Апалонік, Казімір Жых, Яраслаў Гарбачоў і іншыя. Пісьменнік Г. Шутэнка напісаў да агляду спецыяльны верш-прывітанне «Мацней крок, механізатар». Ім будзе адкрывацца заключнае выступленне ў Мінску зводнага калектыву прафтэхвучылішчаў Гродзенскай вобласці.

**В. Рабцаў.**

※ Народны тэатр пры Пухавіцкім раённым доме культуры працуе над п'есай Э. Брагінскага і Э. Разанава «Саслужыўцы». У актыве трупы — спектаклі па п'есах «Чырвоныя кветкі Беларусі» В. Гарбацэвіча і «Трыбунал» А. Макаёнка.

**М. Шмароўскі.**

※ Арыгінальныя, прыгожа аздобленыя кошыкі, хлебніцы, сухарніцы і іншыя вырабы з лазы пляце Іван Іванавіч Буйвіч. Нядаўна работы народнага ўмельца былі паказаны па Брэсцкім абласным тэлебачанні. Перад вачыма гледачоў прайшла цэлая серыя рэчаў, зробленых яго рукамі.

Работнік Баранавіцкай фабрыкі мастацкіх вырабаў І. Буйвіч увесь свой вольны час аддае любімаму занятку. Яго вырабы карыстаюцца вялікім попытам. Яны былі прадстаўлены на Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі БССР, адзначаны дыпломамі.

**Ул. Макарэвіч.**

※ Яшчэ дзвюма ганаровымі граматамі папоўнілася шматлікая калекцыя ўзнагарод Гомельскага палаца культуры чыгуначнікаў імя У. І. Леніна.

Першай яго ўзнагародзіла Праўленне савецкага фонду міру за актыўны ўдзел у дзейнасці савецкага фонду міру, за папаўненне яго добраахвотнымі ўзносамі ад канцэртаў мастацкай самадзейнасці.

За высокае выканаўчае майстэрства і паспяховае выступленне ў канцэрце для дэлегатаў XXI з'езда прафсаюза рабочых чыгуначнага транспарту калектыў народнага цырка Палаца культуры ўзнагароджаны Ганаровай граматай ЦК прафсаюза рабочых чыгуначнага транспарту і грашовай прэміяй.

**Л. Сасімовіч.**

※ Фільмы ўсіх саюзных рэспублік ўбачаць сёлета кінагледачы, якіх абслугоўвае Маладзечанскае міжраённае аддзяленне кінапракату, у тым ліку — трынаццаць фільмаў Украінскай ССР, дзевяць — Грузінскай, сем — Таджыкскай ССР.

**М. Лазар.**

※ У Мінскай вочна-завочнай школе рабочай моладзі адбыўся вечар, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы. На вечары выступілі пісьменнік М. Хведаровіч, супрацоўнікі музея Я. Купалы Я. Раманоўская, Т. Тарасава і артысты тэатра юнага гледача. Вучні школы падрыхтавалі выстаўку твораў паэта, а таксама фотамантаж, прысвечаны яго жыццю. Многія з іх прачыталі вершы Я. Купалы, расказалі пра свае ўражанні пасля наведання музея песняра.

**Н. Нарэйка,**
**выкладчыца беларускай мовы.**

## СЯРОД МУЗ

Мал. М. ЧАРНЯЎСКАГА.








— Напішыце рэцэнзію!..

Апанас ЛАБЖАНСКІ

## О—ХО—ХО

*ІРАНІЧНАЯ ПРОЗА*

Я люблю праўду. Вось у чым мая бяда...

Паехаў я неяк у камандзіроўку ў суседні раён. Зайшоў у мясцовую рэдакцыю. А ў мяне пытаюцца:

— Што там у вас новага?

— Рэдактар, — адказваю з радасцю.

— Які?—захваляваліся яны.

— Хвацкі, рухавенькі такі... Круць-верць—у чарапочку смерць. На ўмацаванне прыслалі. І прозвішча дзіўнае такое—Масёл.

— Масёл Іван Палыч?.. Хе-хе, чулі, — гаворыць адзін.

— Ну, дык трымайцеся. Цяпер ён будзе вашу рэдакцыю «цэментаваць», — буркнуў другі.

— Пакутнікі вы...—не змоўчаў трэці і працягла ўздыхнуў:—О-хо-хо!..

Вярнуўся я з камандзіроўкі ў прыўзнятым настроі. Заходжу да Масёла. Пра навіны нешта лапачу. Потым згарача ляпнуў:

— А вас там, аказваецца, усе ведаюць,

Масёл ад нецярпення пачаў перабіраць нагамі, нібы той парсюк у плоце, рукой пад носам хуценька так соўгае.

— А што яны гаварылі? Толькі карацей,—паморшчыўся ён і неяк дзіўна ўсміхнуўся.

Тут бы прыаздобіць усё, што чуў, рамонкамі, васількамі і іншым разнатраўем, а я—разгубіўся, ката за хвост цягну:

— Двое, — кажу,—сышліся на тым, што вы—гэта самае... Ну, самі разумееце! А вось трэці... неяк вобразна і коратка сказануў. Прабачце, далібог, не памятаю... Я, ведаеце, міма вушэй прапусціў. Ды, урэшце ж, можна пазваніць. Зараз жа закажу размову з ім. Балазе, і нумар тэлефона запісаны...

Масёл зірнуў на мяне так, нібы яго вока бяльмом заслала, і працадзіў:

— Ідзі працуй! Хопіць прыдурвацца!

А потым і пачалося. Напісаў я артыкул, занёс яго Масёлу, а ён праз хвіліны дзве зайшоў да мяне, шырока расставіў ногі і кажа:

— Што ты нагарадзіў, га?—і яго рука зноў забегала пад носам.—Галаву зломіш! Чорт ведае што...

Доўга я правіў той артыкул. Але што ні зраблю —усё не так, усё не па ім... Перажываю. Як кажуць, не п'ю, не ем. Другі б адразу здагадаўся, у чым справа, а да мяне чамусьці доўга не даходзіла. Можа, ён, гэты круцьверць, злуецца, што я не ўсё расказаў тады пра яго? Можа сапраўды кепска пісаць пачаў я?

Праверыць трэба. Узяў з гора рэдактарскі артыкул, перайначыў першы сказ, змяніў прозвішчы і падсунуў яму: чытай!

Не прайшло і пяці хвілін—выклікае Масёл мяне і зноў чахвосціць:

— Біўся я, біўся, даражэнькі, над тваім артыкулам, ды бачу—нічога не атрымліваецца добрага! З кожным днём ты горш і горш пішаш...

І тут на мяне як бы прасвятленне найшло: злуе! Злуе за старое... І, доўга не думаючы, бухнуў яму:

— Іван Паўлавіч, а я ўспомніў усё ж, што сказаў тады пра вас трэці... Ён сказаў: «О-хо-хо!»

Марыян ЗАЛУЦКІ

## АДУКАЦЫЯ

Чытаў я вершы, драму, прозу,  
Чытаў і Канта, і Спінозу,  
Заядла—ад усіх далёка—  
Глытаў і Гегеля, і Лока...  
Усё, што розум мудры, лоўкі  
Стварыў ў натхненні ці ў адчаі—  
Чытаў...  
Забыў...  
Чытай хоць зноўку.  
А Ганны вось не забываю!

Пераклаў з польскай К. ПАЎТАРЖЫЦКІ.

А. БУДЗЕЙКА

## МЫШ У ЗВЯРЫНЦЫ

ЖАРТ

Мыш не раўня Слану! Ну, ну...  
Ніхто у заапарку  
Не наступаў яму на мазалі,  
хоць смельчакі былі,  
Бо хобатам як шыбане...  
З яго слановым каркам  
Дубы з карэннем можна вырываць.

А Мыш і за Слана дужэйшая,  
відаць,—  
Залезла ў складку на ягоназе,  
Пішчыць, нягодніца, і за пяту грызе,  
Каб не стаяў, каб тупнуў на Ката,  
Бо той к Слану па справах завітаў  
І ледзь было не сцапаў дармаедку.  
Але застаўся без наедку.  
Слон азвярэў, жалезны плот зламаў.  
Зірнеш—не Слон, а буралом, чума  
Бушуе ў парку—паспрабуй суціш.

Вось што такое у звярынцы мыш...

## З НЯМЕЦКАГА ГУМАРУ

**ПЕРШ ЗА ЎСЁ ЧУЛАСЦЬ!**

Чула і ўважліва абслугоўваюць пакупнікоў у магазіне на Кёпэнікштрасэ. Для кожнага пакупніка тут заведзена асобная кніга скаргаў.

**УЗОРНАЕ НАСЕЛЬНІЦТВА**

У новым мікрараёне сталіцы тэлефоны-аўтаматы заўсёды ў парадку, ніхто не абразае трубак, не кідае ў аўтамат сагнутых манет. Тэлефоны-аўтаматы будуць устаноўлены тут у канцы наступнага года.

**САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ!**

Добра падрыхтаваліся да прыёму наведвальнікаў работнікі рэстарана «Кантыненталь». На пяці замежных мовах яны могуць сказаць: «халоднага піва няма», «калі вам не падабаецца, не ешце» і г. д.

**ВЕЛЬМІ ЦІКАВА!**

— Мне вельмі падабаецца ваш маленькі ўтульны гарадок! — гаворыць турыст бургамістру.

— Вас, напэўна, зацікавіць і тое, што на працягу апошніх 40 гадоў колькасць насельніцтва нашага горада не павялічваецца і не памяншаецца?

— Няўжо?! Але чым гэта растлумачыць?

— Вельмі проста. Заўсёды, як толькі тут з'яўляецца на свет новы грамадзянін, адзін малады мужчына таемна пакідае горад.

**ЗНАЎЦА ВІН**

Жадаючы паказаць сябе знаўцам він, адзін прадавец загадаў завязаць яму вочы; пасля гэтага перад ім паставілі шклянкі з рознымі вінамі. Пасмакаваўшы, спец без цяжкасці называў гатунак і год вырабу. На 21-м разе яму падставілі шклянку вады. Дэгустатар глынуў, нахмурыў бровы, глынуў яшчэ. Нарэшце заківаў галавой і прамовіў:

— Першы раз у сваім жыцці вымушаны прызнаць сябе пераможаным. Я не ведаю гэтай вадкасці, бо я яе ніколі не піў.

Памаўчаўшы момант, ён дадаў:

— У адным я магу вас запэўніць: прадаваць такое віно няварта.

Пераклаў Д. ЯРАШЭЎСКІ.



Мал. Л. ВЯЗНІКАВА.


По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33 24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33-25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры—33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі—33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры—33-21-53, выдавецтва —32-22-19, бухгалтэрыі—32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.